# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

23 ЖНІЎНЯ 2002г. № 33/4167 КОШТ 310 РУБ.








**Матэрыялы, прысвечаныя 85-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі, чытайце на стар.**

**6—7**

*Фота Ул. КРУКА*



## КОЛА ДЗЁН

***Закончылася жніво. Сабраны, як ніколі, багаты ўраджай — амаль 6 мільёнаў тон збожжа.***

***Ужо другі тыдзень не сціхаюць размовы пра прапанову прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна аб увахоўджанні нашай краіны асобнымі абласцямі ў склад РФ. Прапанова прэзідэнта Расіі не знайшла падтрымкі ні ў прэзідэнта Беларусі, ні ў беларускага народа. Наш курс — пабудова незалежнай і квітнеючай Беларусі.***

### ТАВАРААБАРОТ ТЫДНЯ

Тавараабарот нашай краіны з Расійскай Федэрацыяй у студзені-чэрвені гэтага года склаў 4,3 млрд. долараў. Імпарт у знешнегандлёвай дзейнасці Беларусі з Расіяй даволі значна перавышае экспарт. Кошт на долю першага прыпадае 2,5 млрд. долараў, то другі складае 1,8 млрд. долараў У параўнанні з адпаведным перыядам 2001 года вартасны аб'ём экспарту ў Расію ў доларах паменшыўся на 4,7 працэнта, імпарту —на 3,3 працэнта, што тлумачыцца ў першую чаргу паніжэннем сярэдніх цэн экспарту ў Расію на 1,8 працэнта і імпарту —на 9,4 працэнта. Сярод станоўчых тэндэнцый — змяншэнне долі бартэрных аперацый у знешнім гандлі.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

На жаль, як стала вядома са звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, за першае паўгоддзе насельніцтва нашай краіны зменшылася прыкладна на 28,9 тыс. жыхароў. Паводле дадзеных на 1 ліпеня 2002 года ў Беларусі жыло 9 млн. 922 тысячы чалавек. Да ўсяго, на працягу сёлетніх студзеня-чэрвеня ў нашай краіне нарадзілася 43053 і памерла 75791 чалавек. Сумна...

### РАХУНАК ТЫДНЯ

На спецыяльны рахунак , які адкрыты для збору дабрачынных ахвяраванняў на будаўніцтва новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, паступіла 1 млн. 311 тысяч рублёў. Да работы па зборы сродкаў на будаўніцтва далучылася Міністэрства замежных спраў нашай краіны. Праз беларускія пасольствы за мяжой улады звярнуліся да нашай дыяспары з просьбай аказаць дапамогу ў будаўніцтве. Самы буйны ўзнос на рахунак паступіў ад Беларускага універсітэта культуры. А ўсяго трэба каля 100 мільёнаў долараў, каб новая Нацыянальная бібліятэка расчыніла перад чытачамі свае дзверы.

### ЗМЯНШЭННЕ ТЫДНЯ

Апошнія некалькі гадоў колькасць вучняў у нашых школах стабільна памяншаецца. Гэта адбываецца не таму, што бацькі не пускаюць дзяцей вучыцца, а таму што памяншаецца колькасць дзяцей школьнага ўзросту. З гэтай прычыны да канца 2002 года ў нашай краіне будзе закрыта 57 пачатковых школ, 42 базавыя і 1 сярэдняя школа. Будуць пераўтвораны 29 сярэдніх школ, 19 базавых і 4 пачатковыя школы. А ў школах будуць вучыцца на 52 тысячы чалавек менш, чым у мінулым навучальным годзе.

### ПЕРАМОГА ТЫДНЯ

Беларуская велагоншчыца Зінаіда Стягурская перамагла ў супермнагадзёнцы "Вялікая пятля". Яна паказала ў суме ўсіх этапаў гонкі лепшы час —42 гадзіны 31,39 секунды. Другое і трэцяе месцы адпаведна занялі спартсменты Швецыі і Іспаніі.

### ЦЭНЫ ТЫДНЯ

З 15 жніўня павысіліся цэны на куплю-продаж залатых мерных зліткаў. Так, злітак золата наміналам 1 грам цяпер купляецца за 18315 рублёў, а прадаецца юрыдычным і фізічным асобам, акрамя банкаў, за 28253 рублі. Цана 10-грамовага "мерніка" для продажу насельніцтву роўная 221634 рублям.

### ТРАЎМАТАЛОГІЯ ТЫДНЯ

Небяспека чакае нас не толькі ў дарозе ці на вадзе, але і, здавалася б, на самым звыклым для многіх месцы —на працы. Так, за студзень-ліпень, пры непасрэдным выкананні сваіх працоўных абавязкаў у нашай краіне загінулі 132 і атрымалі цяжкія траўмы 321 чалавек. Самай траўманебяспечнай з'яўляецца сельская гаспадарка, дзе з пачатку года загінула 47 чалавек. Словам, беражыце сябе!

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У Мінск прыбылі 11 новых вагонаў для метро з Мыцішчынскага завода. Яшчэ 12 вагонаў закуплена і ў Санкт-Пецярбургу. З 2 верасня, калі метро пяройдзе на зімовы графік работы, на першай лініі "падземкі" будуць курсіраваць пяцівагонныя саставы. Інтэрвалы руху не зменяцца і складуць у ранішнія і вячэрнія гадзіны пік адпаведна 2 і 2,5 хвіліны. Метрапалітэн рыхтуецца да яшчэ большага патоку пасажыраў у сувязі з тым, што ў хуткім часе з пэўнай часткі праспекта Ф. Скарыны будуць зняты тралейбусы.

### РЭЙТЫНГ ТЫДНЯ

14 жніўня Міжнародная федэрацыя футбола распаўсюдзіла новы штомесячны рэйтынг-ліст нацыянальных зборных. Узначальвае табліцу зборная Бразіліі, далей ідуць зборная Аргенціны, Іспаніі, Францыі, Германіі і т.д. Зборная Расіі займае 30 месца, Украіны — 42, Грузіі —53, Узбекістана —73, Эстоніі —77, Беларусі —84, Літвы —98 і т.д. Усяго ў рэйтынг-лісце 203 нацыянальныя зборныя.

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Ізноў павысіліся цэны на белую гарэлку. На гэты раз на 4 працэнты. Цяпер у рознічным продажы, напрыклад, паўлітровая "вінтавая" бутэлька гарэлкі "Крышталь—100" каштуе 2555 рублёў (раней — 2460), "Белая Русь", "Крышталь-люкс" —2640 (2540), Белая Русь-люкс", "Крышталь-люкс новы" —2735 (2635). З пачатку года гарэлка даражэла ўжо сем разоў. Аднак, не адной гарэлкай жывы чалавек...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

20 жніўня 2002 года адбылося чарговае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні XIV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў. Адкрываючы пасяджэнне Уладзімір Гніламёдаў звярнуўся да прысутных з наступным: "У вызначальны для беларускай літаратуры час, нельга заставацца раўнадушным, староннім назіральнікам. Сёння ад кожнага літаратара залежыць будучыня беларускага слова, якое павінна гучаць годна ў кожным куточку нашай святой зямлі. Пісьменнікі павінны адкінуць асабістыя крыўды, палітычныя амбіцыі і стаць на абарону беларускай літаратуры, павінны дапамагчы Прэзідэнту, кіраўніцтву рэспублікі адстаяць нашу дзяржаўнасць. Нам жыць у суверэннай дзяржаве і нам перад нашчадкамі несці за яе адказнасць!"

На пасяджэнні абмяркоўваўся парадак дня з'езда, пытанне аб справаздачным дакладзе і выступленнях ад творчых секцый. Абмеркавана і вынесіцца на старонкі штотыднёвіка "ЛіМ" перадз'ездаўская анкета (тэкст пытанняў падаецца ніжэй), прапанавана праўленню Беллітфонду падрыхтаваць тэкст прапаноў па актывізацыі працы па лініі: "Беллітфонд — пісьменнік", а таксама прапановы па правядзенні ў рамках пісьменніцкага XIV з'езда — схода Беллітфонду.

З прапановамі выступілі М. Мятліцкі, Р.Баравікова, В.Коўтун, В.Праўдзін, А.Сульянаў, Б.Пятровіч, Г.Чарказян, А.Зэкаў, У.Мачульскі, А.Карлюкевіч, кіраўнікі секцый СБП і прысутная В.Іпатава.

**АРГКАМІТЭТ**

## Перадз'ездаўская анкета пісьменніка(цы)

**Пытанні:**

1. Каго вы бачыце на пасадзе старшыні СБП і кіруючых органаў пісьменніцкай арганізацыі?

___________________________________________

___________________________________________

2. У якіх выдавецтвах і колькі часу ляжаць вашы рукапісы?

___________________________________________

___________________________________________

*Прапанаваную анкету дасылайце (прыносьце) у рэдакцыю штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».*

# Творам — жыць! Суполцы — існаваць?

Чым бліжэй з'езд СБП, тым больш распальваюцца жарсці вакол становішча нашай творчай суполкі ці, больш дакладна сказаць, вакол яе незайздроснага лёсу. Думаю, ні адзін нармальны сябра СБП не можа пахваліцца, быццам яго задавальняе стан (аб справах няма й гаворкі!), у якім апынуўся Саюз беларускіх пісьменнікаў. Я ўжо даўно лічу яго толькі сімвалам. Замаруджаны працэс росту арганізацыі за кошт папаўнення яе новымі талентамі. Мы пішам кнігі, а тыражаваць у дзяржаўных выдавецтвах іх не ўдаецца, прынамсі абсалютнай з нас большасці. Факты ў мяне свае. Хоць і не прывык скардзіцца, але свае праблемы найлепш знаёмыя. У 1994—95 гадах у "Мастацкай літаратуры" замарозілі падпісаную карэктуру кнігі вершаў "Перад абліччам неба". Г. Марчук абяцаў выдаць у 1998 годзе... Так абяцаў, што ажно ўзяў ды зняў з плана выпуску літаратуры на 1997 год новы зборнік лірыкі. Я ўжо маўчу пра іншыя рукапісы — зборнікаў літаратурных партрэтаў і перакладаў: цяпер гэта нікога не цікавіць. Мы сталі па сутнасці бяспраўныя і безабаронныя.



Хто-ніхто, афармляючы пенсію, спрабаваў у СБП узяць даведку аб ганарарах па лініі Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Аказалася, што сшыткі ўліку такіх выплат даўно былі выкінуты пад дождж, а пасля на сметнік.

Жыццё працягваецца. Калі ж сябра СБП памірае, перад апошняй яго дарогай, каб развітацца, трэба шукаць кватэру, дзе ён жыў, бо сродкаў на журботныя провады творчая суполка ўжо даўно не мае. Дарэчы, калі дзяржава больш не можа фінансаваць СБП ці не хоча, то ў цывілізаваным грамадстве, у якім мы, лічы, жывём, хацелася б пра такія сур'ёзныя змены пачуць ад дзяржаўных мужоў адпаведных міністэрстваў.

Дзіўна: сёй-той з нас бачыць лёгкае выйсце з тупіка. Маўляў, правядзём з'езд, выберам дзейнае кіраўніцтва, вернем Дом літаратара — і зажывём незалежна, заможна, шчасліва. Як кажуць, дай, Божа, нашаму цяляці... Але так проста нават у чароўных казках не бывае. Ну, калі дажыліся казакі, што ні хлеба, ні табакі, то з'езд непазбежны, ужо іншага выйсця няма. Згодны з Алесем Камароўскім, што яго трэба было праводзіць увесну.

Як нармалізаваць работу? Простых шляхоў пакуль не відаць. Канешне, не шкодзіла б найперш выбраць клапатлівага і гаспадарлівага кіраўніка (толькі дзе ён і ці хоча кіраваць?) і ў кіруючыя органы — энергічных і чуйных людзей. Рада нам патрэбная такая, з якой было б карысна радзіцца. Ну, дапусцім, тут у нас будзе поўны парадак. Што далей? Дзе ўзяць фінансы? Гэтае пытанне немінуча паўстане ў самым пачатку любой дзейнасці. Акцыянуем дом творчасці "Іслач"? Калі чакаць аддачы? Пэўна ж, не адразу. А калі напраўду вернуць нам Дом літаратара? Ілюзія ці рэальнасць?

Саюзу, як і даўней, пагражае раскол. Варта захаваць яго адзіным (у нас — не маскоўскія ўмовы, каб раз'ядноўвацца). Мне не падабаюцца інтрыгі, міжусобіцы, закулiссе. Невядома, што чакае нас наперадзе. Сітуацыя можа й не палепшыцца, тым не менш не будзем панікаваць. Творчасці ніхто нікога не пазбавіць. Сапраўды мастак будзе тварыць, калі яго нават пазбавяць ганарараў. Значыць, творам — жыць. Вельмі спадзяюся, што да з'езду ў шэрагі прафесійных літаратараў будуць прынятыя ўсе тыя, за каго даўно прагаласавалі на секцыях. Яны так чакаюць свята!

Божа мой, з якім задавальненнем паслухаў бы я на з'ездзе хоць бы кароткія прамовы, прысвечаныя стану сучаснай літаратуры! З часоў Тамары Чабан (ужо 10 гадоў няма яе з намі) ніхто ўсур'ёз не разглядаў, прыкладам, творчасць А. Сыса. Іншых таленавітых і маладых. За гэты час вырасла цудоўная літаратура. Радуюць многія з тых, каму за трыццаць ці пад сорак і зусім юныя. Усіх іх не пералічыць. Няхай бы ўсе пачулі, што цяпер адбываецца ў паэзіі, прозе, драматургіі, публіцыстыцы, крытыцы, у літаратуры для дзяцей. Я сумую без такой шчырай, шырокай хвалюючай гамонкі. Ну што тут скажаш? Не сучасны! Дзівак!..

**Васіль ЖУКОВІЧ**

# Святочны Мір чакае гасцей...

З чым у нас перш за усе асацыіруецца 1-га верасня? Канешне, гэта першакласнікі, кветкі, першы званок, дзень ведаў. Так, у гэты дзень пачынаецца навучальны год. Але ў гэты ж дзень адзначаецца яшчэ адно свята. Свята агульнанацыянальнае, бо яно мае дачыненне да кожнага чалавека, які хоць аднойчы трымаў у руках кнігу, — свята беларускай пісьменнасці. Ужо не першы год яно адзначаецца на дзяржаўным узроўні. Прычым, кожны раз святочныя мерапрыемствы адбываюцца ў новым горадзе, у новай мясцовасці. У гэтым годзе свята пройдзе ў Міры.

Тэме падрыхтоўкі да Дня пісьменнасці была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая адбылася 20 жніўня ў нацыянальным прэс-цэнтры. На ёй выступіў Міністр інфармацыі Беларусі Міхаіл Падгайны. Ён цвёрда зазначыў, што свята адбудзецца менавіта 1 верасня, а не 17, як сцвярджалі некаторыя СМІ. Міхаіл Васільевіч паведаміў, што ў гэты дзень будуць выдадзены спецвыпускі Карэліцкай газеты, а таксама іншых раённых і абласных газет. Плануецца выпуск сувенірнай кнігі пра Мір і яго помнікі, карты Карэліцкага раёна.

Пра тое, як рыхтуецца Мір да свята паведаміў старшыня Карэліцкага райвыканкама Іван Шматко. Па яго словах, зараз у цэнтры Міра і на вуліцах (а іх 25 агульнай працягласцю 10 км), працуе звыш 800 лепшых будаўнікоў. Усяго на ўпарадкаванне мясцовасці выдзелена 500 мільёнаў рублёў.

З верасня рашэннем райвыканкава Мір будзе мець свой герб і сцяг. На гербе на фоне трохзубага фрагмента замкавай сцяны будзе красавацца двухгаловы арол — сімвал Радзівілаў. Контур сцяга нагадвае сцяну замка.

На працягу дня свята наведаюць прыблізна 25 тысяч чалавек. Ганаровых гасцей запрошана каля 400, сярод іх — увесь дыпламатычны корпус. Каб зацікавіць турыстаў, адкрыта новая гасцініца, кафэ. Уладальнікі мабільных тэлефонаў кампаніі Velcom таксама будуць задаволены: з 1 верасня пачне працаваць новы ўзмацняльнік сігналу і можна будзе тэлефанаваць не падымаючыся на ўзвышша.

Мір — горад унікальны. Тут ёсць і царква, і касцёл... Напачатку падрыхтоўкі да свята мясцовыя жыхары не ўспрымалі перамен. Але з цягам часу сталі казаць: "Усё, што мы зараз зробім, застанецца для нашай моладзі".

**Ганна ПУШЫНА**



# Працаваць на свой дом

***У хуткім часе наша краіна чарговы раз адзначыць Дзень беларускага пісьменства. Напярэдадні свята карэспандэнт "ЛіМа" сустрэўся і пагутарыў з дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі Уладзімірам ГНІЛАМЁДАВЫМ.***

**—Уладзімір Васільевіч, у год 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа свята пісьменства будзе праходзіць на старажытнай гарадзенскай зямлі, якая дала свету знакамітых пісьменнікаў, навукоўцаў, дзеячаў культуры. Як да гэтай падзеі рыхтуецца Інстытут літаратуры?**

—Сапраўды, гэта ўрачыстасць ужо зрабілася ў нашай краіне традыцыйнай. Мір, дзе на гэты раз ладзіцца свята — месца гістарычнае. Супрацоўнікі нашага інстытута возьмуць удзел у канферэнцыі, прысвечанай праблеме беларускай кніжнасці, асноватворчай дзейнасці славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія, якія, згодна з апошнімі меркаваннямі, былі беларускага роду. Завяршаем выданне поўнага збору твораў Янкі Купалы ў 9-і тамах з каментарыямі, даведачным апаратам, знойдзенымі намі новымі тэкстамі — публіцыстыкай, лістамі, статутамі, пратаколамі розных пасяджэнняў, што тычацца біяграфіі і службовых заняткаў паэта, іншымі дакументамі, праз якія як ніколі раней яскрава і напоўніцу вымалёўваецца новая, вельмі велічная і светлая постаць духоўнага апекуна нашага народа. Распачынаем выданне збору твораў Якуба Коласа, які, на маю думку, атрымаецца надзвычай цікавым: багата матэрыялаў дагэтуль захоўваецца ў прыватных архівах. Будзе выдадзены, я веру, апошні том "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя" ў 4-х тамах, кожны з каторых — каля 60 аркушаў. Гэта вялікія, прыгожа афармленыя, добра аддрукаваныя кнігі, якія ўпершыню раскажуць пра тое, што адбывалася ў нашым стагоддзі, як, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, развівалася літаратура. Успомнілі мы тут і забытыя імёны, пра якія не кожны, можа, нават і ведае, прысвяцілі ім асобныя раздзелы. Не ўсё, безумоўна, сюды ўвайшло, але гэта буйная праца, якой мы ганарымся і якая не будзе спыняцца. Літаратура ў нас цікавая, абавязкова будуць дадаткі. Падрыхтавалі мы і 2 грунтоўныя тамы гісторыі старажытнай літаратуры, а таксама хрэстаматыю. Варта адзначыць, што нашымі гісторыкамі літаратуры, тэкстолагамі адкрыта, апісана, расчытана, пракаментаравана столькі невядомых помнікаў, як, можа, ні ў адной славянскай краіне. Усё гэта вельмі актуальна ў плане росту цікавасці да гісторыі спадчыны ўвогуле.

**—Якія распрацоўкі Інстытута літаратуры, на вашу думку, найбольш значныя і перспектыўныя?**

—У нас вядуцца даследаванні па кампаратывістыцы — літаратурных сувязяў не толькі з суседнімі краінамі, але і з літаратурамі ўсяго свету, нават з тымі, з якімі беларусы не мелі непасрэдных кантактаў. Але заканамернасці сусветнага літаратурнага развіцця паўсюдна больш-менш аднолькавыя, таму што чалавецтва паўсюдна ішло амаль адным шляхам у вывучэнні чалавека, яго псіхалогіі, унутранага свету, эмоцый, думак, перажыванняў, свядомасці і падсвядомасці, скіраванасці да ўчынкаў. Гэтыя веды — да прыкладу, той жа псіхааналіз — наш агульны здабытак, якім паспяхова карыстаюцца навукоўцы пры вывучэнні пытанняў літаратуры. Метадалогія 12-15-гадовай даўнасці састарэла, новай доўгі час не было, і цяпер я ўсцешаны, што наша метадалагічная база ўзбагачаецца, што творы беларускіх пісьменнікаў, іх найскладанейшыя ідэйна-мастацкія аспекты можна разглядаць у сукупнасці і з пункту гледжання гістарызму, і з пункту гледжання псіхааналізу, і з пункту гледжання кампаратывізму, і з пункту гледжання так званай гендэрнай праблематыкі, якой сёння ўсё больш і больш цікавяцца, і з пункту гледжання постмадэрнізму. Вядома, мы не пазбягаем страт і памылак, але не спыняемся, бо наша праца скіравана на будучыню.

**—Ці ў дастатковай колькасці, на ваш погляд, творы беларускай літаратуры перакладаюцца на іншыя мовы і выдаюцца за мяжой?**

—Гэта адно з самых актуальных і істотных пытанняў. Беларусь стала незалежнай краінай, атрымала суверэнітэт. Па-за межамі нашай краіны ведаюць 3-4 беларускіх пісьменнікаў, і мне гэта здаецца несправядлівым у дачыненні да астатніх, таму што ў нас багата выдатных нацыянальных творцаў, якія ўзялі на сябе турботу выказацца ад імя грамадства, народа і ад сябе асабіста, бо без асабістага літаратуры няма. Мы павінны самі шукаць літаратурныя і культурныя сувязі, даваць чытачу і грамадству уяўленне пра тое, што робіцца ў суседніх літаратурах, блізкіх і далёкіх. У нас гэта работа аціхла. Калі раней выдаваліся альманахі "Братэрства", "Далягляды", дык зараз нічога няма. "Всемирная литература" — часопіс своеасаблівы. Нам трэба выдаваць часопіс "Замежная літаратура" на беларускай мове, які б знаёміў чытача з найлепшымі і найноўшымі ўзорамі паэзіі, прозы, публіцыстыкі, крытыкі, рэцэнзавання, навінкамі сезона другіх літаратур. Павінен расці ў нас і корпус перакладчыкаў. Мы павінны ведаць, што пішуць і пра нас. Тады мы будзем расці, удасканальвацца, рухацца наперад, а то мы крыху варымся у сваім катле, чытаем адзін аднаго, а што далей — не ведаем. Такое становішча не садзейнічае ўздыму нашага майстэрства, пашырэнню тэматыкі, культурнага і мастацкага ўзроўню роднай літаратуры. Хочаш не хочаш, а робімся правінцыяламі.

**—Уладзімір Васільевіч, ці дастаткова ў нас зараз з'яўляецца грунтоўных крытычных матэрыялаў, якія адлюстроўвалі б літаратурны працэс ва ўсёй шырыні, глыбіні і разнаітасці?**

—На жаль, гэта таксама наша слабаватае месца. Больш развіваецца літаратуразнаўства. Ёсць у нас, безумоўна, цудоўныя крытыкі — Алесь Марціновіч, Ірына Шаўлякова, Ганна Кісліцына, Алесь Карлюкевіч і іншыя. Але ў цэлым не спраўляемся, пішам менш, чым трэба. Крытык зараз незапатрабаваны, адчувае, што яго работу не цэняць, і таму страчвае, недапрацоўвае. Крытыкі сёння — пакрыўджаны народ і трэба іх неяк падтрымаць, напрыклад, звярнуць пільную ўвагу на ганарары. Такая мая думка.

**—Зараз у літаратуру ідзе багата маладых. Якую працу з пачаткоўцамі вядзе інстытут, які вы ўзначальваеце?**

—Не сказаць, каб мы шырока паставілі гэту дзейнасць, але калі з'яўляюцца маладыя, мы не адмаўляем у дапамозе,



чытаем творы, даём парады — а ў інстытуце нашым шмат членаў Саюза пісьменнікаў, і не толькі крытыкаў, літаратуразнаўцаў, але і паэтаў, і празаікаў — падтрымліваем. Дапамога наша найперш кансультатыўная. Маладыя друкуюцца недастаткова, і я на ўрадавым узроўні пры магчымасці заўсёды напамінаю пра гэта. Думаю, праблема падтрымкі творчай моладзі знойдзе адлюстраванне ў рабоце XIУ з'езда нашага саюза.

**—Як ажыццяўляецца супрацоўніцтва Інстытута літаратуры з літаратурнымі музеямі і культурнымі асяродкамі ў сталіцы і на перыферыі?**

—Мы неабыякавыя да гэтага ўчастка культурніцкай работы, супрацоўнічаем з музеямі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча. Там захоўваюцца неабходныя нам рукапісы, тэксты, якія падлягаюць зверцы. На навуковыя канферэнцыі, якія праводзяцца ў музеях, ходзім амаль усім калектывам. Зараз выступаем з ініцыятывай пра адкрыццё музея-кватэры Уладзіміра Караткевіча.

**—Недастатковае папаўненне кніжных фондаў — "галаўны боль" усіх бібліятэк і навуковых устаноў. Як вы вырашаеце гэту праблему?**

—Наша бібліятэка не такая вялікая, але шмат дапамагае нам. Раней яна інтэнсіўна папаўнялася праз фундаментальную бібліятэку імя Я.Коласа, а цяпер гэта адбываецца радзей.Усё закупіць зараз немагчыма і таму супрацоўнікі нашага інстытута, прыносяць у падарунак бібліятэцы свае кнігі. І я, карыстаючыся выпадкам, звяртаюся да пісьменнікаў з просьбай дасылаць у нашу бібліятэку свае празаічныя і паэтычныя творы, пераклады, зборнікі, артыкулы. Гэта нам вельмі трэба, істотна паспрые нашай дзейнасці, мы будзем удзячныя. І аўтары набудуць шырокую вядомасць.

**— Якія адкрыцці і нечаканасці падпільноўваюць даследчыкаў на шляху вывучэння "белых плям", якіх яшчэ так багата ў нашай літаратуры?**

—Старажытная літаратура — самы аддалены перыяд, і тут усё, што дайшло да нас, часцяком існуе ў выглядзе фрагментаў ці асобных адзіночных экземпляраў. Мы, канешне, цікавімся, збіраем матэрыял, але цяпер няма сродкаў на камандзіроўкі, на наведванне архіваў, кнігасховішчаў. Кожны перыяд, кожнае стагоддзе маюць свае неасветленыя праблемы і мясціны. Колькі знойдзена новых тэкстаў, што тычацца, напрыклад, XIX стагоддзя! Нядаўна мы адкрылі буйную польска-беларускую паэтку Зосю Тшашчкоўскую, якая пісала папольску, але нарадзілася ў Беларусі, мела тут маёнтак і ўся яе польскамоўная паэзія, асвечаная беларускім духам, дыхала нашай этнічнасцю. Спадчына яе складае вялікі том аркушаў на 40, які, я спадзяюся, убачыць свет яшчэ ў гэтым годзе на мове арыгінала і паралельна ў перакладзе на беларускую мову. Уявіце, якое гэта будзе мець значэнне ў справе беларуска-польскага культурнага супрацоўніцтва, паразумення і збліжэння. А XX стагоддзе — колькі тут невысветленага! Скажам, перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны: многія тагачасныя газеты і часопісы яшчэ не падняты, не вывучаны, не хапае даследчыкаў, якіх і так няшмат. Я не ўпэўнены таксама, што мы ўсё ведаем з таго, што адбывацца сёння. У апошнія гады столькі кніг выходзіць у райцэнтрах, мястэчках, абласных гарадах. Не ўсё аднолькава раўнацэннае, не ўсё трапляе ў поле нашага зроку, але ўсё гэта наша гаспадарка, якую трэба ўлічыць. "Белых плям" мы, на жаль, не можам пазбыцца, хоць і працуем у накірунку, каб наша літаратура была не tera incognita, а асвоеная тэрыторыя.

**—Ці не з'яўляецца думка стварыць пры інстытуце сваё выдавецтва ці выдавецкі цэнтр?**

—Мы думалі і пра гэта, і шмат пра што іншае, але пакуль такой магчымасці не надарылася. Трэба купляць дарагое абсталяванне, але ж не дазваляе базавае фінансаванне, якое даецца выключна пад канкрэтныя праекты і тэмы.Мы "палюем" на гранты, шукаем спонсараў, просім, ходзім з шапкай па кругу. Свайго выдавецтва няма, але гэта наша блакітная мара.

**—А як увогуле сітуацыя з абсталяваннем?**

—Мы забяспечаны працэнтаў на 50 і лічым гэта немалым сваім дасягненнем, таму што яшчэ гадоў пяць таму нічога не было. Пажадана, каб у кожнага супрацоўніка быў свой індывідуальны камп`ютэр: час машыністак прайшоў.

**—Відаць, у інстытуце даўно склаўся калектыў аднадумцаў?**

—Інстытут літаратуры — гэта асяродак, які дае навукоўцу магчымасць паслухаць думку таварыша пра сваю работу, выказаць меркаванні. Як у Булата Акуджавы: "Собирайтесь-ка, гости мои, на мое угощение, говорите мне прямо в лицо, кем пред вами слыву..." Гэта эфект "угощения" духоўнага. Іншая рэч, будуць яно кіслым ці горкім. Хай таварышы выкажуць, хай аўтар паслухае. І гэта самае дарагое, менавіта ў гэтым і каштоўнасць інстытута, для гэтага ён і існуе.Тут павінен выхоўвацца малады даследчык, набірацца вопыту, разважлівасці, праніклівасці, рабіцца эрудытам.

**—Уладзімір Васільевіч, відаць, апошнім часам нашаму пісьменніцтву бракуе згуртаванасці. Чаму так атрымліваецца?**

— Сапраўды, гэта думка прыйшла не сёння. Мы, на вялікі жаль, даўно адчулі нейкую адчужанасць. І гэта трэба перамагаць, арганізацыйна і творча ўмацоўвацца, наводзіць масты з дзяржавай. У нас ёсць праекты, ёсць задумкі, нам трэба, каб дзяржава нам дапамагала. Я не бачу другога шляху. Хай будуць і замежныя інвестары, я іх вітаю, але на замежныя сродкі мы сваю культуру не пабудуем, не здолеем выдаваць часопісы, кнігі, утрымліваць выдавецтвы, здзяйсняць культурніцкія праекты, выхоўваць добрых паэтаў, празаікаў, перакладчыкаў, крытыкаў. У нас нездаровых сіл няма — усе сілы здаровыя, творчыя, таленавітыя, дастаткова працаздольныя, усе маюць права на таварыскую і дзяржаўную падтрымку, мы ўсіх паважаем. Я хацеў бы, каб усе гэта ведалі. Нам трэба аб'ядноўвацца і дамаўляцца. Гэта беларуская традыцыя — працаваць на свой дом.

## *Свята народнага інструмента*

**Калісь было, што чалавек, які грае на гармоніку, лічыўся на вёсцы першым хлопцам. Часы змяніліся. Сталі забываць і пра сапраўдны народны інструмент і пра самога гарманіста.**

**У Быхаўскім раёне таксама шанавалі і сёння шануюць гармонік. Але апошняе свята "Гармонік — мой сябра" праходзіў там 5 гадоў назад. Летась вырашылі свята аднавіць. Цяпер яно будзе праводзіцца у раёне раз на два гады.**

**Спачатку у 40 сельскіх клубах і Дамах культуры Быхаўскага раёна правялі конкурс каб выявіць лепшых. Потым 11 жніўня ў парку 50-годдзя Перамогі Быхава арганізавалі раённае свята-конкурс. Ён доўжыўся шэсць гадзін. Дзесяць канкурсантаў удзельнічалі ў трох асноўных намінацыях: беларуская полька, вальс, частушка.**

**Першае месца было прысуджана Людміле Клепік, пенсіянерцы з Быхава, другое — Вользе Тврдоўскай, таксама пенсіянерцы, удзельніцы народнага калектыву "Гаспадыня" Быхаўскага раённага цэнтра культуры, трэцяе — Галіне Шыпкевіч, дырэктару Чорнаборскага сельскага Дома культуры. Яшчэ былі прызы гледачоўскіх сімпатый і за арыгінальнасць. А ўвогуле без узнагароды не застаўся ніводны з удзельнікаў. Да таго ж у намінацыі "Свабодны гармонік" мог узяць удзел хто заўгодна. Тут адзначылася Марыя Лахадынава.**

**У перапынках, пасля кожнай намінацыі, перад гледачамі выступалі народныя фальклорныя калектывы "Багатуха" і "Гаспадыня". А таксама спявалі салісты ансамбля "Дняпроўскія зоры" Валянціна Казаноўская, Валянціна Крункова, Святлана Нікіфарава.**

**Лідзія МАХІНА**

## *"Беларуская думка", № 7*

**Нумар адкрываецца артыкулам С. Ткачова "Рынак з беларускім акцэнтам". Раздзел "Літаратура і жыццё" прадстаўлены вершамі Б. Спрынчана і заканчэннем "Начных успамінаў" І. Шамякіна. "Клічуць старыя сядзібы" — нарыс А. Марціновіча, у якім гаворка ідзе пра мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю выдатных людзей, а таксама пра ашчаднае стаўленне да гэтых унікальных помнікаў і захоўванне іх. Праблемы сучаснай харэаграфіі ўзнімае Ю. Чурко ("Танец — крылы душы"). Г. Загародні ("Чароўная вабнасць навізны") расказвае пра Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Г. І. Цітовіча. Л. Ламсадзе гутарыць з С. Акружной ("Адзін спектакль здатны вылечыць горад"). І. Шпадарук ("Дарогі Саланевіча") знаёміць з вядомым філосафам, нашым земляком. Цікавыя матэрыялы ў раздзелах "Гістарычная памяць", "Адукацыя і выхаванне", "Эўрыка", "Спорт і здароўе" і іншыя.**

**"Беларускі гістарычны часопіс", № 2—3**

**Змешчаны артыкулы "Карыстанне паслугамі як тэндэнцыя сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь" І. Святліцкага, "Духоўны генезіс асветніцтва на землях Беларусі" А. Яскевіч, "Канцылярыя ВКЛ 40-х гг. XV — першай паловы XVI ст." А. Грушы, "Артылерыя ў Вялікім Княстве Літоўскім у другой палове XIV — сярэдзіне XVI стагоддзяў" Ю. Бохана, "Стварэнне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь" В. Пташніка, "Сацыяльны склад студэнцтва ў Беларусі ў 1920-х гг." М. Сакалова, "Аднаўленне гістарычнай асновы афіцыйнага герба горада Мінска" Р. Жаўняркевіча, С. Рассадзіна, М. Яленскай, "Знешні выгляд гарадоў Беларусі ў XI—XIII стст." Л. Калядзінскага. А. Белакоз дзеліцца развагамі "Урок гісторыі ў Гудзевіцкім музеі". Тут жа прапануецца і багата ілюстраваны каляровымі здымкамі матэрыял С. Барыса "Гудзевіцкі музей Алеся Белакоза". Ёсць раздзелы "Людзі гістарычнай навукі", "Майстры педагагічнай справы" "Методыка. Вопыт", "Рэцэнзіі".**

# Любіць не сябе ў літаратуры, а літаратуру

***гэтага правіла прытрымліваюцца многія і многія нашы пісьменнікі, пра якіх я пішу ў сваіх матэрыялах. Адзін з іх — вядомы паэт Кастусь Цвірка, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларускі кнігазбор", перакладчык з польскай мовы паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды". Нядаўна я пабываў на яго радзіме ў вёсцы Зялёная Дуброва Старадарожскага раёна. Тут Кастусь Аляксеевіч падоўгу жыве і працуе. Прапаную чытачам "ЛіМа" гутарку з ім адносна яго перакладчыцкай працы і літаратуры наогул, а таксама невялікую замалёўку пра паездку на паэтаву зямлю.***

**Уладзімір САЛАМАХА**



**— Канстанцін Аляксеевіч! Атрымаў я ліст на адрас газеты "Советская Белоруссия", дзе, як ведаеце, друкую матэрыялы пра нашу літаратуру, у якім чытачка з вёскі Жылічы з Магілёўшчыны Ізольда Пятроўна Каравацкая піша: " У выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выйшла кніга — пераклад на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды", а вы, шаноўны Уладзімір Саламаха, ні слова... Прызнаюся, мяне гэты ліст вельмі ўзрадаваў. Па-першае, "Дзяды", ў даным выпадку, як факт нашай перакладной літаратуры, адразу ж пасля выхаду ў свет сталі запатрабаваны не толькі ў сталіцы (тут шматлікая чытацкая аўдыторыя), але і на перыферыі, дзе такой няма. Значыць, людзі паўсюль цікавяцца літаратурным нацыянальным працэсам. Па-другое, — звяртаюць увагу і на тое, што мы ў газеце. адносна роднай літаратуры пішам. Па-трэцяе, як бы якія газецёнкі і хто ні пісаў, што літаратуры беларускае нібы няма, што, адпаведна, і мовы нашай няма — глупства несусветнае. Але цемрашалы...**

— *Можа, рэзка, Валодзя?..*

**— Можа... Што датычыць "Дзядоў", дык пакуль не асмельваўся пісаць пра іх: мовы ж польскай, арыгінала, не ведаю. Як параўноўваць арыгінал і пераклад. Толькі калі чытач робіць заўвагу, трэба да яе прыслухацца... Дык вось, са школы ведаем, што Міцкевіч, калі ўжо так, наш. Хоць і належыць сусветнай літаратуры. Ён, лічыцца, што з Наваградчыны. А ў "Беларускай энцыклапедыі", том 10-ты, пазначана так: "Міцкевіч Адам (24.12.1798, в. Завоссе Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.; паводле інш. крыніц, г. Наваградак Гродзенскай вобл. — 26.11.1855), польскі паэт беларускага паходжання...". Не будзем каменціраваць, што і як. Далей жа бяру цытату з вашай прадмовы да беларускага варыянта твора, да вашага яго перакладу. Там сказана, што Міцкевічавы "Дзяды" з'яўляюцца "адным з самых яркіх шэдэўраў сусветнай літаратуры". Але вось што не зусім зразумела: паэма, ужо амаль два стагоддзі гучыць на самых розных мовах, у поўным аб'ёме, а на нашай (у аснове ж твора — старажытны беларускі абрад памінання продкаў, які і сёння ў нас завуць "дзяды"), у такім поўным "фармаце" друкуецца ўпершыню... Ведаю, працы гэтай вы аддалі шмат гадоў. Цікава, калі вы ўпершыню адкрылі для сябе Міцкевіча?**

— Сумна, але позна адкрыў. Наогул, лічу, што позна пазнаёміўся з творчасцю Адама Міцкевіча. Толькі ў студэнцкія гады, у сярэдзіне 50-х гадоў. Тады я вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. А ў школе — я нарадзіўся і жыў да вучобы ў БДУ ў вёсцы Зялёная Дуброва Старадарожскага раёна, пра Міцкевіча толькі чуў. Маўляў, быў такі польскі паэт, наш зямляк, з нашай зямлі беларускай... А што напісаў... Не, нікога ў гэтым не віню: ні настаўнікаў, ні школу — час быў такі. Зараз Міцкевіча кожны школьнік-падлетак ведае. І гэта цудоўна. Згадзіцеся: паэт, празаік, ды любы творца, пакуль не судакранешся з яго творамі, з той зямлёй, дзе нарадзіўся, як нехта рэальны для цябе не існуе: сімвал, знак, нейкі вобраз... Трэба ўвайсці ў яго свет, каб зразумець, што за яго іменем.

**— І чым раней увайсці, тым лепш...**

— Вядома... Дык вось, тады, помніцца, у 1955 годзе ў нас выйшла "Выбранае" Міцкевіча. Вершы, паэмы, санеты, балады. Склаў том Янка Брыль. Рэдактар — Максім Танк. Пераклады — Янкі Купалы, Якуба *Коласа, Максіма Танка, Анатоля Вялюгіна,* Міколы Аўрамчыка, Сяргея Дзяргая, іншых пісьменнікаў.

Выданне тое мяне ашаламіла: якая паэзія! А вобразы, склад, думкі!.. Гэта ў перакладзе. А як ў арыгінале?.. І сёння помню тое юнацкае пачуццё, якое можна параўнаць хіба што з ненатоленай прагай пазнання. А мовы польскай — не ведаю.

**— Прыйшлося вывучаць?**

— Паступова, з цягам часу. Зразумеў: вялікую літаратуру, калі ты хочаш перакладаць яе з іншай мовы на тваю родную, трэба вывучаць у арыгінале. Падрадкоўнік для літаратуры не падыходзіць. Хіба што для якой інструкцыі... А яшчэ кніга падштурхнула: чытай у арыгінале нашых землякоў польскамоўных пісьменнікаў, такіх нямала, дык перакладай. З Сыракомлі пачаў. Між іншым, па яго творчасці абараніў кандыдацкую... Да Міцкевіча падыходзіў асцярожна: яшчэ б, сам Пушкін яго высока цаніў. І нашы Купала і Колас. У тым жа энцыклапедычным артыкуле пра Міцкевіча, які ты прыгадаў, сказана, што яго творчасць зрабіла вялікі ўплыў на далейшае развіццё беларускай літаратуры. У прыватнасці, што яго ўплыў адчуваецца ў творчасці Дуніна-Марцінкевіча, Сыракомлі, Вярыгі-Дарэўскага, Каратынскага, Лучыны, Багушэвіча, Купалы і Коласа, Уладзіміра Караткевіча. Але, можна смела *сказаць, што* ўплывае Міцкевіч і на творчасць нямала каго з нашых сучаснікаў.

**— Вядома, усё геніяльнае, прачытанае пісьменнікам, пакідае ў яго душы свой след.**

— Але... Дык вось, першыя мае пераклады Міцкевіча з мовы арыгінала — вершы і балады — асмеліўся надрукаваць толькі праз шмат гадоў, у 70-х. Калі, як мне тады здавалася, ужо адчуў, што маю пэўны ўласны вопыт літаратурнай працы. Акрылілі мяне, як перакладчыка, тыя публікацыі ў нашых цэнтральных газетах і часопісах. Тады, скажам шчыра, перакладной літаратуры, тым больш шэдэўрам, класіцы надавалася вялікая ўвага: мы такім чынам пастурова ўваходзілі ў канктэкст сусветнай культуры.

**— Кастусь Аляксеевіч! Рыхтуючыся да нашай гаворкі, я перш за ўсё прагледзіў у сваёй хатняй бібліятэцы паліцы з кнігамі і часопісамі, у якіх змешчаны пераклады на беларускую мову твораў з самых розных моваў свету, зробленыя нашымі пісьменнікамі. Адзначыў: менавіта ў тыя часы, пра якія мы гаворым, да так званай перабудовы мы атрымалі на сваёй роднай мове амаль усё лепшае з рускай і савецкай класікі, з моваў народаў былога СССР, са славянскіх, іншых літаратур свету. Гэта калі наогул казаць пра пераклады — чытач, думаю, даруе, што крыху адышлі ад асноўнай тэмы гаворкі. Падняў таксама і падшыўкі газет. Дык вось, выпісаў для сябе толькі некаторыя імёны тых нашых літаратараў, хто нястомна працаваў, упэўнены, і зараз працуе (толькі дзе выдавацца?) над перакладамі. Гэта — і нашы класікі і проста цудоўныя пісьменнікі. Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Уладзімір Дубоўка, Ян Скрыган, Юрка Гаўрук, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Іван Пташнікаў, Васіль Сёмуха, Алег Лойка, Язэп Семяжон, Уладзімір Скарынкін, Янка Сіпакоў, Рыгор Барадулін, Мікола Гіль, Яўген Міклашэўскі, Алесь Разанаў, Міхась Стральцоў, Генадзь Бураўкін, Яўген Каршукоў, Янка Саламевіч, Іван Чарота, Уладзімір Папковіч, Ніна Мацяш, Аркадзь Марціновіч, Васіль Зуёнак, Віктар Гардзей, Мікола Татур, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Ягоўдзік, Пятро Макаль, Юрась Свірка, Анатоль Бутэвіч, Міхась Кенька, і называю ў тым парадку, у якім іх пераклады стаяць на паліцы) і многія іншыя творцы, хто сам выдатна працаваў і працуе ў літаратуры. І, вядома ж, перакладчыкі, хто працаваў над серыямі перакладаў "Скарбы сусветнай *літаратуры*", "Бібліятэка замежнай прозы", "Паэзія народаў свету", інш., што існавалі тады ў "Мастацкай літаратуры". Гэта Анатоль Клышка, Пятро Бітэль, Сямён Дорскі, Сяргей Шупа і іншыя — усіх нават пералічыць немагчыма ў адной размове. І тое, што сёння няма такіх серый, лічу, — наш агульны боль.**

— Так. Сёння — гэта праблема. Але, несумненна, што тады мы стварылі, скажам так, банк шэдэўраў сусветнай літаратуры на беларускай мове. Вось толькі некалькі прыкладаў: Пушкін, Чэхаў, Бунін, Шаўчэнка. Айтматаў, Шэкспір, Шылер, Цвейг, Ман, Апулей, Лонг, Лорка, Шолам-Алейхем, Бёль... Без перабольшання, нашы пісьменнікі і проста перакладчыкі, якіх мы назвалі і не змаглі назваць зараз, падаравалі нашчадкам тое, без чаго нельга ўявіць у будучым духоўны свет беларусаў. Але, думаю, пра гэта ты больш дэтальна пагаворыш з кім-небудзь з даследчыкаў літаратуры, хто спецыялізуецца на гэтым.

**— Так. Зноў вернемся да "Дзядоў".**

— Валодзя, ты сказаў на пачатку нашай размовы, што іх усе перакладалі, акрамя нас, беларусаў. Меў на ўвазе цалкам. І мы перакладалі шырока Міцкевіча. Ад Дуніна-Марцінкевіча, Ельскага, Купалы і Коласа, да нашых сучаснікаў. Розныя творы. І ўпэўнены, даўно поўнасцю б пераклалі, калі б тады былі іншыя часы. Успомнім як і ў якіх умовах развівалася наша літаратура... Часам не да перакладаў было. Шмат што страчана... А "Дзяды" да мяне перакладалі, паралельна са мной — таксама. Ведаю, і зараз перакладаюць. І будуць перакладаць столькі, колькі будзе існаваць наша літаратура. Перакладалі і друкавалі ўрыўкі нашы выдатныя пісьменнікі Янка Сіпакоў, Пятро Бітэль, іншыя. Дарэчы, Пятро Іванавіч пераклаў "Пана Тадэуша", "Конрада Валенрода", "Гражыну", "Крымскія Санеты" іншыя творы нашага знакамітага земляка. Вельмі радуе, асабліва сёння, калі, здавалася б, усё вось-вось паглыне псеўдалітаратура, што і да Міцкевіча, як наогул да класікі звяртаюцца маладыя пісьменнікі і перакладчыкі. Я вітаю маладога паэта Сяргея Мінскевіча, які ўзяў і зрабіў поўны пераклад "Дзядоў". Яго пераклад своеасаблівы, мадэрнізаваны. Галоўнае ён чытаецца. Гэта вельмі складаная праца. Але гэта і вельмі вялікая школа для кожнага, хто звяртаецца да літаратурнай спадчыны такога вялікага майстра слова, як Міцкевіч.

**— Кастусь Аляксеевіч! Прызнаюся, не кожны перакладчык, пісьменнік, вось так, як вы, шчыра хваліць пераклады, працы калег. Тым больш маладых. Іншы не можа ўтрымацца ад рэўнасці: "У мяне лепш..." А вы так проста і лёгка...**

— Валодзя... Нагадаю адзін стары мудры выраз, ці пазіцыю, якога, якой прытрымліваліся нашы класікі, і сёння прытрымліваюцца многія пісьменнікі: трэба любіць не сябе ў літаратуры, а літаратуру. Да гэтага, можа, не кожны адразу прыходзіць: з гадамі. Так, і мы, пісьменнікі, як і ўсе людзі... Бывае, і нам трэба вучыцца памяркоўнасці. Хаця, максімалізм патрэбен, асабліва юным. Каб жа дзеля справы. А літаратура, як і ўсялякі іншы асяродак творчай чалавечай дзейнасці — межаў не мае. У ёй месца ўсім хапае, хопіць усім. Твары — і гэтым усё сказана.

**— Дзякуй, Кастусь Аляксеевіч.**

— І табе дзякуй, І Ізольдзе Пятроўне, і ўсім нашым чытачам.



П. Панчанка, У. Караткевіч

біяграфія. Эпізод, як ён уцякаў з вагона (таварнага) — выключны. Не было дзе сесці і стаць у таварным вагоне, але, калі адзін чалавек сказаў, што ён хоча ўцячы, — усе зрабілі на сантыметраў трыццаць праход... Ён дацягнуўся да акна і выскачыў з цягніка, і не разбіўся. З гэтых пор ён канчаткова пераканаўся ў самаадданасці нашых людзей і ў нашай перавазе.

●

**Жнівень**. Пабываў на могілках — і не стаў песімістам, наведаў радзільны дом — і не зрабіўся аптымістам.

●

***Даруй, жыццё, што ў слабасці часовай,***
***Калі імгла мне засцілала зрок,***
***Я горкія, разгубленыя словы***
***Бяздумна устаўляў у свой радок.***
***Яны — мой боль, яны не мой характар.***

**1976**

●

Ёсць пах, які нам мілы і родны ад нараджэння і да смерці: матчыных рук, малочнага паху валосікаў сястрычкі і малога браткі, пах напаленай печы, свежавымытай падлогі, печанага хлеба, смажаных дранікаў, скошанага сена, разагрэтага бору, распілаваных дошак, суботняй лазні, спелага жытняга поля, складзеных у грудок яблык і груш, вянкоў цыбулі і часнаку, каўбас на гарышчы, смаленага кабана, новых алоўкаў, падручнікаў і чаравікаў, палыну, чабору, мяты, пчалінага мёду, свежазваранай і печанай бульбы, квашанай капусты, расцёртага лістка таполі, першага снегу, абдадзенага дажджом пылу, агню з бярозавых і яловых дроў, новага кажуха, конскага поту, талага снегу і грыбоў, грыбоў, грыбоў у розным стане.

●

**25 верасня.** Нядужыцца, хварэецца, баліць рука...

Учора прысніў Купалу, быццам мы сядзім у нейкім прэзідыуме, але перад намі не зала, а нібыта фае ці хол гасцініцы. Раптам бачым: заходзіць пахмуры Купала. Паглядзеў на нас, адвярнуўся і моўчкі падаўся да дзвярэй. Броўка шэпча: "Трэба сустрэць". Ён, Танк, я і яшчэ нехта шпарка пайшлі да дзвярэй. Але Купалу не знайшлі.

Сёння таксама недарэчны сон. Зайшоў да мяне Дубоўка, паздароўкаўся і, нічога не сказаўшы, пайшоў.

Народная прыкмета — страшная.

Няўжо і мне ўжо туды?

*Хацелася б пажыць, папрацаваць. Толькі* збіраюся за прозу ўзяцца.

Цяпер смерць — не падзея. Недзе на Коласе адмерлі глыбокія спачувальныя пачуцці. Нават смерць І. Мележа сапраўды ўсхвалявала, растрывожыла, выклікала боль у нас, нямногіх яго сяброў. А гэтыя, нахрапістыя кар'ерысты і самалюбы, нават узрадаваліся.

Чытачы — іншая справа.

А мне так не стае Івана, яго голасу, яго вячэрняга званка, добрай размовы пра літаратуру. Я добра ведаў яго недахопы, ён мае, але нам заўсёды было прыемна сустрэць адзін другога, паразмаўляць.

●

**28 верасня.** Здольнасць востра адчуваць чужыя пакуты, надзвычайна развітае пачуццё справядлівасці, душэўная чысціня. Як гэта важна і патрэбна! І як многім, у тым ліку і пісьменнікам, гэтага не хапае. Адгэтуль бездухоўнасць, а ў літаратуры шэрасць (нават пры наяўнасці пэўных здольнасцяў).

**1977**

●

Я супраць сентыментальных сяброўскіх адносін. Я ненавіджу п'яныя прызнанні: "Ты вялікі", "Я вялікі". Але хочацца па-ранейшаму (больш стрымана) пагаварыць пра жыццё, пра літаратуру. А з кім? Усе спяшаюцца, усім няма часу, усе імкнуцца хутчэй адхапіць больш кавалак славы, улады, грошай, дабрабыту.

Адчужэнне, раз'яднанне...

Вядома, у патрыятычным, у палітычным сэнсе мы ўсе адзіныя, з'яднаныя, аднадумцы, а ў духоўным "общении" — вельмі адзінокія.

Павінна з'явіцца і песімістычная лірыка... "Што я яму такое добрае зрабіў, што ён адплаціў мне подласцю?"

**1985**

●

**24 верасня.** У знойдзеным егіпецкім папірусе запісаны гордыя словы аднаго з фараонаў: "Я не чинил зла людям... Я не убивал... Я не преграждал путь бегущей воде..."

**1989**

●

**8 сакавіка.** Вось і жыццё прайшло... Ну, яшчэ тыдзень, месяц, год-другі — і нырай у чорную бездань... Мая мама пад старасць казала: "Ой, сынок, у маленстве дзень здаецца бясконцым, а дзяцінства прабягае ўмомант. Не паспееш надыхацца маладосцю, а табе ўжо зноў у дарогу. Толькі ўвайшла ў адны дзверы, а перад табою расчыняюцца другія: "Выходзь!" Так і наша жыццё..."

●

**4 красавіка.** Некалі ў нас сбыло беларускае справаводства. Былі добрыя падручнікі: па гісторыі — Ігнатоўскага, па геаграфіі Беларусі — Смоліча.

А цяпер выпрашваем, каб вярнулі дзяржаўнасць беларускай мове (гэта члену і арганізатару ААН).

●

**30 чэрвеня.** У "Правде" за 30 чэрвеня надрукавана гутарка з Віктарам Астаф'евым. Я потым выпішу дарагія майму сэрцу радкі. А цяпер толькі адзін абзац: "И вообще не надо путать литературу с хореографическим училищем, где под музыку и команду поднимают ногу, — хватит, наподнимались уже под бодрые крики вождей, ноги и руки устали от такой физкультуры".

Мне ўспомнілася адна з першых пасляваенных сустрэч. Прыехаў Бранеўскі Уладзіслаў. За сталом (у Каралішчавічах) пачалі з тостаў: за Сталіна, за Берута, за савецкі народ, за польскі народ і г.д.

Раззлаваўся Бранеўскі і выгукнуў:

– Ці доўга мы будзем займацца такой фіззарадкай?



Аўтограф паэта



А. Куляшоў, П. Панчанка, І. Грамовіч, А. Асіпенка. 1970 г.



А. Лойка, І. Мележ, П. Панчанка. 1976 г.



П. Панчанка, А. Адамовіч, В. Вітка. 1983 г.



П. Панчанка, Я. Брыль. 1977 г.

Фота Ул. КРУКА

## Беларускія адрасы разанскага краязнаўца

**Разань літаратурная — гэта сапраўды бясконцыя мастацкія сусветы Сяргея Ясеніна, Канстанціна Паўстоўскага, другіх знакамітых пісьменнікаў. Ёсць свае літаратурныя стасункі ў Беларусі і Разанскай старонкі. З разанскай зямлёй звязаны лёс малавядомага беларускага пісьменніка Тодара Лебяды (Пятра Шырокава).**

**А з Беларуссю нямала кантактаў у разанскага краязнаўца Уладзіміра Міхайлавіча Касаткіна. Кандыдат медыцынскіх навук, ён з'яўляецца аўтарам кнігі пра Канстанціна Георгіевіча Паўстоўскага. Уладзімір Міхайлавіч да 1980 года досыць часта наведваўся ў Гомель (тут жылі бацькі яго жонкі). Прыязджаў разанскі літаратар і ў Мінск, Магілёў, Брэст. Быў на экскурсіях у Белавежскай пушчы, у Хатыні.**

**Беларусь — у душы, у свядомасці Уладзіміра Касаткіна. Ды і займаючыся даследаваннем жыцця і творчасці Канстанціна Паўстоўскага, разанскі краязнаўца сутыкаецца, судакранаецца з Беларуссю, з мінскімі і брэсцкімі мясцінамі, якія ведаў, многія дзесяцігоддзі назад адкрыў для сябе вялікі рускі пісьменнік.**

**А сёлетні год — год 110-годдзя з дня нараджэння К. Паўстоўскага — увогуле насычаны многімі падзеямі. Уладзімір Касаткін выступіў з дакладам на пасяджэнні Разанскага абласнога клуба краязнаўцаў — пра жыццё К. Паўстоўскага ў Мяшчоры. Прыняў таксама ўдзел у юбілейным вечары ў разанскай вёсцы Еўдакімаўка (там Канстанцін Георгіевіч жыў у 1923 годзе ў родзічаў сваёй жонкі К. Загорскай). З удзелам Уладзіміра Касаткіна адчынена новая экспазіцыя ў лазні сядзібы, дзе ў 1930—1940-я гады ў Салотчы працавалі К. Паўстоўскі, А. Гайдар і Р. Фраерман.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## "Роднае слова", № 7

**Пачынаецца сёмы нумар артыкулам У. Гніламёдава "Ён адкрыў Беларусь", у якім вядомы крытык і літаратуразнаўца дзеліцца сваімі ўражаннямі аб творчасці Я. Купалы. 120-годдзю з дня нараджэння народнага песняра прысвечана і шэраг іншых матэрыялаў, сярод якіх артыкулы Э. Садаўнічага "Мастацкая літаратура і нацыянальная свядомасць" (генезіс беларускай тутэйшасці паводле Я. Купалы), Т. Хромчанкі "Тарас Шаўчэнка і Янка Купала", Е. Лявонавай "Маркотна хаджу па зямлі..." (Купалаўскі пераклад верша Г. Гесэ "У мгле"), З. Мельнікавай "Уладзімір Калеснік і беларускае купалазнаўства", І. Долбік "Творчасць Янкі Купалы ў музычным увасабленні", Т. Ляшчэні "Паэзія Янкі Купалы ў творчасці Анатоля Багатырова", Ф. Ваданосавай "Музыка — блізкая сястра купалавай паэзіі." (творчыя стасункі Я. Купалы і А. Багатырова), Г. Вітушкі "На добры ўспамін..." (пра дарчыя надпісы Я. Купалы на кнігах), У. Содаля "Верш Янкі Купалы "А хто там ідзе?" у гісторыі беларусаў". Пра духоўныя арыенціры ў паэзіі П. Панчанкі разважае Л. Гарэлік — "Кантрасты і парадоксы жыцця". Семантычная і дэрывацыйная арганізацыя найменняў бульбяных страваў у народнай мове — тэма артыкула Ж. Буглак "Бульбу параць, бульбу вараць, бульбу так сабе ядуць". Змешчаны артыкулы "Асноўныя тыпы лексічных значэнняў слоў" В. Краснея, "Праца — работа, працаваць — рабіць, працоўны — рабочы" Г. Кулеш, "Абзац" І. Лепешава, "Вобраз песняра ў творчасці беларускіх паэтаў XIX — пачатку XX ст.", А. Скорабагатчанкі "Дынамічная пластыка Анатоля Анікейчыка" М. Тараканавай, "Міф Віцебска ў творчасці Марка Шагала" Н. Усавай, "Музычны свет Генрыха Вагнера" Р. Аладавай, "Сустрэча праз 45 гадоў" (Я. Колас і А. Зотава) А. Гарон. "Летапіс Сяргея Давідовіча" — такой назвай аб'яднаны слова М. Шавыркінай і ўрывак з паэмы С. Давідовіча "Зона". З дырэктарам Літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа З. Камароўскай гутарыць Т. Лапцёнак ("Шкада, што ў школе выпрацаваны стэрэатыпы...").**

ПАЭЗІЯ

Васіль МАКАРЭВІЧ



## Паэма пабрацімства

Памяці Максіма Лужаніна

*Хто ведае, пры Каіну,*
*З дажджамі аднастайнымі,*
*Калі не ад палонію,*
*Ад страху чэзнуў бэз, —*
*Яго сябры да Коласа*
*Ў памочнікі прыставілі,*
*Ці сам душой падступнаю*
*Ў давер да дзядзькі ўлез?*

*А можа, быў пасватаны*
*Той пільнаю кантораю,*
*Што у Крамлі лічылася*
*Найлепшаю з кантор.*
*І ведала-заведвала*
*Жыццём і крэматорыем,*
*Дыханне нават кожнага*
*Узяўшы пад кантроль?!*

*Хіба яна не помніла,*
*Што брат яго ў Амерыцы,*
*Магчыма, віскі глыкае*
*Ды лезе ў гараскоп.*
*А мо і дзядзька выкінуць*
*Каленца хітра мерыцца,*
*Дзесь да знямогі рыючы*
*То яму, то падкоп?!*

*Паўдзён з нязноснай спёкаю,*
*Альбо світанне волкае, —*
*А ён, памочнік Коласа,*
*Як друг ці кампаньён,*
*За ім паўсюды назіркам,*
*Як нітка — за іголкаю,*
*Той — у шпакоўню цесную,*
*А следам — шусь! — і ён!*

*Бываў і на паседжаннях,*
*Не толькі дзеля кворума,*
*Ў дыскусіях арудаваў,*
*Ледзь пераводзіў дух.*
*І часам слова гэткае*
*Угорне ў спрэчак ворыва,*
*Аж Колас крэкне здзіўлена, —*
*А хай цябе кадук!*

*Заходзіў і ў прыёмныя,*
*Нібы ў прысцен прылазніка,*
*Да кабінетных мамантаў*
*Там праставаў, бы чмут.*
*І, ў крэсле мяккім седзячы,*
*Сачыў, як за пралазамі,*
*Каб не хітрылі з Коласам,*
*Не білі у хамут.*

*А як было памочніку*
*Не асадзіць нахрапістых,*
*Што дзеля мумій кленчылі*
*Хвалу, як муміё, —*
*Калі ён шахаў з раніцы*
*Наўзмах сярпом анапесту*
*Клін яравое лірыкі,*
*Што толькі — ё-маё!*

*Хоць у паставе дзядзькавай*
*Зусім не бачыў Цэзара,*
*Што славу імператара*
*Умомант змог нажыць, —*
*Ён быў гатоў за Коласа*
*Ісці вайной на цэнзараў,*
*Адстойваць коску кожную*
*Ад вострых іх нажніц.*

*Ну а калі ў гародчыку*
*Ён шчыраваў з рыдлёўкаю,*
*Зямля пачне, здавалася,*
*Кіпець ды закіпаць.*
*Вярнуў-варочаў, чорную,*
*Нібыта ў яму глеўкую*
*Сабраўся ён, разгневаны,*
*Цэнзуру закапаць.*

*Ды пільнаваў, каб грымнулі*
*Куранты гучна з музыкай,*
*Як дзядзька сну світальнага*
*Апошні гнаў пракос.*
*Ён знаў — за хвілю кожную*
*І бляск зіркатых гузікаў*
*Адказнасць непасрэдную*
*Перад вярхамі нёс.*

*А дзень быў так застаўлены*
*Стагамі спраў і копамі, —*
*Між імі не праточыцца,*
*Як і ў трысці, кулік.*
*Хаця узросту рознага, —*
*Касцамі, далакопамі*
*Аблог вярнулі клопату*
*Глыбока і — ўцалік!*

*А побач муза — ткалляю.*
*Пастава з вабнай грацыяй.*
*Ледзь ступіць крок і — чуецца*
*Кужэльны шум-шумок.*
*Эх, закаціцца б з пекнаю,*
*Калі не ў рэстарацыю,*
*То недзе на ускраіне —*
*Ў карчомку ці шынок!*

*На выдумку з фантазіяй*
*Чыя душа не галая!*
*Ды што планідай суджана —*
*Таму ў жыцці бываць!*
*А можа, ўбок адкінуўшы*
*Ўсе званні і рэгаліі,*
*Ён, Колас, з музай кінуўся б*
*Чачотку выбіваць!*

*Дзе дні яго не гойсалі,*
*Што толькі не пялегалі,*
*З глыбінь азёрных цягнучы*
*З бяздоннем невады!*
*Ды трэба быцьме Коласу*
*Ніжэй травы палеглае,*
*Цішэй куды ад восеньскай*
*Стамлёнае вады!*

*Ён бачыў, як паплечнікі*
*Пужліва бралі палачку,*
*Што расчытаць да каліва*
*Магла любы клавір.*
*І з ёй гулялі ў сталую,*
*Ды страшную, стукалачку, —*
*Хто перш каго застукае, —*
*Збірайся у Сібір!*

*А што рабіць! Не з полюса,*
*Дзе воблакі — саборамі,*
*І зязла безліч айсбергаў —*
*Як срэбных абразоў, —*
*А з-за сцяны крамлёўскае,*
*З рубінавымі зорамі,*
*Ішлі густыя плоймішчы*
*Інтрыг і маразоў.*

*Ці ж быць магло па-іншаму*
*У час той непрыкаяны?!*
*Людскія душы ломячы*
*Без жалю у камлі,*
*Адроддзе чынгісханава*
*З прамым нашчадкам Каіна*
*Не толькі верхаводзілі,*
*Звярэлі у Крамлі!*

*Ці раз дзяржаву дзелячы*
*Паміж сабой, як вотчыну,*
*Ўсчыналі бойню лютую*
*З-за ўлады і казны.*
*Ну дзе было, каб хіжая*
*Гайня ці зграя воўчая*
*Жыла у цесным логаве*
*Без звад і без грызні?!*

*А сціхата надарыцца, —*
*Умомант прымуць захады:*
*Крамолу знойдуць, выдзеруць*
*З дрыгвы ці з-пад карчоў, —*
*Халуйства захалуснае*
*Перад распусным Захадам,*
*Ці змова нечуваная*
*Крамлёўскіх урачоў!*

*А там зацята возьмуцца*
*За музу з Мельпаменаю,*
*Што жыць штодня вучыліся*
*Без хітрых выкрутас.*
*Чаму жалезнай прымесі*
*Ў іх галасе паменела?*
*З чыйго дазволу ўладнага*
*Гугнявіць дэкаданс?*

*Дармо, што творцы — геніі,*
*Ды ўсе яны — накольнікі.*
*Падобны нават з выгляду*
*Да веснавых драчоў.*
*А сярод іх, задзірыстых,*
*Ідзі знайдзі крамольніка,*
*Хоць і саб'еш на мэтлахі*
*Больш сотні кірзачоў!*

*А можа, летам лазячы*
*Па гушчарах над Нараччу,*
*Ды баравіны рэжучы*
*На ўзлобку, то ў раўку,*
*Ён, дзядзька, недзе ў горадзе,*
*Бегему добра знаючы,*
*Да пошасці з крамолаю*
*Прыклаў, як след, руку.*

*Бо нездарма у Нясвіжы,*
*Дзе будні камінарылі,*



*Лускі бліскотнай золатам*
*Кіпелі у ставах,*
*Касіў гады з навукаю*
*У тлумнай семінарыі,*
*І ў Мінску дні астрожныя*
*У копы пластаваў.*

*Чаго тады аднекваццa*
*Ды заручацца блізкімі, —*
*Віны і ў безвіноўнага,*
*Бы ў полі — кіяхоў!*
*Магчыма, сярод грэшнікаў*
*У папы толькі Рымскага,*
*Ды з пэўнай агаворкаю,*
*Не знойдзецца грахоў.*

*Хіба ніхто не ведае,*
*Што да нябёс далучаны,*
*Душой адчуўшы боскую*
*І ласку і сугрэў, —*
*Ён, Колас, у трыццатыя,*
*Хаця і кляў пілсудчыну,*
*А сам зямлёй наднёманскай*
*І трызніў і хварэў.*

*Ці так сабе, расчулены*
*Парыжскімі жаржэтамі,*
*Ён там, дзе вёў ад раніцы*
*Вучоны рэй Кангрэс,*
*Уміг паразумеўшыся*
*З крухмальнымі манжэтамі,*
*Ў далоні біў гармідару,*
*Што на трыбуну лез.*

*А хіба ў часе бежанства*
*Не быў знаёмы з раджамі,*
*Ды з імі не чаломкаўся*
*Ў Ташкента на віду?*
*Чаму ж памочнік тоіцца*
*І дзядзьку выгараджвае,*
*Замест таго, каб вывесці*
*На чыстую ваду?!*

*Чаму пры модным гальштуку,*
*Ў сурдуце гожай вытачкі,*
*З надброўямі кусцістымі,*
*Дзе, пэўна, страх залёг,*
*Ён не дае, дасведчаны,*
*А хоць бы кончык ніткачкі,*
*Альбо намеру хітрага*
*Маленькі вузялок?!*

*Магчыма, яблык злагады*
*На дрэве згоды спеліўся,*
*Каб плодам дружбы вернае*
*Скаціцца на граду.*
*Відно, што за бяседамі*
*Паміж сабой і спеліся, —*
*Спачатку дзьмулі ў дудачку,*
*А потым і — ў дуду!*

*Ну што ж, кантора пільная*
*Не станецца скупечаю, —*
*Калі ў харомах Коласа*
*Не шчыраваў, а дрых, —*
*Ён будзе каля Замкавай*
*Жылплошчай забяспечаны*
*З такой архітэктураю,*
*Што ажно зойме дух!*

*Мясціна не курортная,*
*З падлогаю растоўчанай.*
*Навошта нары з коўдраю?*
*Не трэба там выгод!*
*Ён стане ноччу душнаю*
*Драмаць у збоі, стоячы.*
*Прагулка з вартай строгаю,*
*Магчыма, — раз на год.*

*А флейты — трубы мокрыя,*
*Што забівае тромбамі, —*
*Ледзь толькі па-мядзведжаму*
*Пагрозна ўзравуць, —*
*Падасца, трыбухатыя,*
*З чыгуннымі вантробамі,*
*Душу наскрозь збалелую*
*Гатовы развярнуць!*

*Ў трызненні-непрытомнасці,*
*Як быццам свет аб'едзе ён,*
*Там, у нары, заціснуты*
*Сярод каменных сцен.*
*. . . . . . . . . . . . .*
*Ні слова не прамовіўшы,*
*Адтуль, бы куст аб'едзены,*
*Цераз паўгода вырвецца*
*Ён, нібы хісткі сцень.*

*P. S. Гады, падзеі з датамі*
*Даўным-даўно адгракалі,*
*Дзён залатыя прыскі*
*Пусціўшы з малатка.*
*Ды у архіўных сховішчах,*
*Ні ў звітках біяграфіі*
*Пра выдумку-не-выдумку —*
*Ні слова, ні радка!*

ПРОЗА

Іван НАВУМЕНКА

# ТРЫ ЭЦЮДЫ



## Расстрэл каля лісіных нор

Хмурай лістападаўскай раніцай па Макаўскім шляху ў напрамку лесу пераваливаецца па калдобінах фурманка, запрэжаная валамі. Спераду яе важна дыбаюць два стараватыя немцы-жандары ў блакітных шынялях з перавешанымі праз шыі чорнымі аўтаматамі. Ззаду, панурыўшы галовы, з вінтоўкамі на плячах брыдуць трое паліцэйскіх, з якіх толькі адзін знаёмы — Сямён Цялеш, высокі, хмуры чалавек, які раней на станцыі працаваў грузчыкам.

На калёсах стары каваль Лейба з тоўстай непаваротлівай жонкай Ханай.

Лейбу многія ведаюць. Задымленая, з дзіркамі ў сценах, скрыўленым дахам кузня стаяла блізка каля школы. Вучні бачылі, як з самай раніцы, апусціўшы галаву да яе шкандыбаў у рудых апорках Лейба. Ён ні на каго не глядзеў і ні з кім не вітаўся. Потым на працягу першай і другой змены з кузні чуўся жалезны грукат.

З палескага мястэчка ўсе, хто хацеў выехаць, выехалі. Ужо былі ўзяты немцамі Віцебск і Орша, бai ішлі ў Смаленску, а мястэчка ўсё яшчэ заставалася савецкім. З боку Бабруйска і Жлобіна яго абаранялі два бронепаязды.

Ды і куды маглі выбрацца Лейба з Ханай. Яны былі старыя, нямоглыя, мелі ўбогую хатку з адным акном, а ў гаспадарцы толькі дзве курыцы. Яны ні з кім не зналіся, іхні адзіны сын даўно выехаў і не падаваў пра сябе вестак, ім проста не было куды выязджаць. Ніхто ндзе іх не чакаў.

Хацінка іх стаяла побач з новай царквой, якая пасля таго, як закрылі царкву сапраўдную, і з яе бярвення збудавалі на другім баку вуліцы клуб, перабралася ў памяшканне шавецкай майстэрні. Ні купалоў не было на гэтай царкве, ні званоў, але старыя людзі веку Лейбы ці Ханы прызналі яе за царкву.

Нехлямяжая фурманка спынілася, даехаўшы да лесу. Ехаць далей азначала, што трэба шукаць нейкую пляцоўку, капаць магілу. Але ні немцы, ні паліцэйскія рабіць гэтага не хацелі.

Таму фурманка павярнула направа, дзе за гладкай палянкай узвышаліся пясчаныя горы. Там было мноства лісіных, барсучыных нор, і можна было знайсці яміну, якая б замяніла магілу.

Убачыўшы такі краявід, немцы загадалі фурману спыніцца. Самі адышліся, паліцэйскім далі знак пачынаць расправу.

– Злазьце, жыды! Далей не паедзем.

Лейба злез з воза. Памог злезці жонцы.

– Прашчай, мая Хана, давай развітаемся.

Старую кабету ён прыхінуў да сябе.

– Лепшай, чым ты, жонкі, не было ды я і не хацеў. Прабач, калі чым-небудзь пакрыўдзіў.

– Бывай, Лейба. Ты ніколі мяне не крыўдзіў. За табой я пражыла як царыца. Я буду на небе чакаць цябе.

У гэтую хвіліну раздаліся два стрэлы. Старыя паваліліся. Паліцэйскія закідалі іх ламаччам. З-пад галін відаць была рваная ватоўка Лейбы і вязаныя панчохі Ханы.

Так закончылася гэтая ганебная расправа. Стаяў лістапад сорак першага года і яшчэ далёка было да таго дня, каб расквітацца з двухногімі нелюдзямі, якія яе ўчынілі.

## Землятрус у Ташкенце

Я прачнуўся ад магутнага ўдару. Ложак падскочыў, са столі, сцен пасыпалася тынкоўка. За акном на імгненне разлілося бялеса-сіняе святло. Былі яшчэ два ці тры меншыя штуршкі: падлога як бы згубіла ўстойлівасць, хісталася пад нагамі.

– Атамная вайна! — выгукнуў мой таварыш, з якім мы ўдваіх займалі пакой у гасцініцы.

Перад паездкай ва Узбекістан, я прачытаў артыкул, змешчаны ў энцыклапедыі і прысвечаны рэспубліцы. З артыкула даведаўся, што ва Узбекістане нярэдкія землятрусы.

Стала зусім светла. Настала раніца. Мы адамкнулі дзверы і выбраліся ў калідор. Па ім бегла распатланая жанчына ў начной сарочцы і дзіка лемантавала:

– Амерыка! Не бамбі мяне. Я амерыканка…

Жанчына здавалася намешанай. Але менавіта ў калідоры, паблізу ад дзвярэй ляжала куча цэглы і друзу. Такая ж куча ўзвышалася і ў нашым пакоі. Гэта паказвала, што справа не ў бамбёжцы, тым болей атамнай.

Пазней, мы даведаліся, што новыя будынкі ў Ташкенце ўзводзяцца з так званымі сейсмічнымі швамі. Гэта азначае, што, скажам, будынак — гасцініцы не мае суцэльных сцен, а ўзведзены як шэраг паасобных секцый. Між секцыямі зроблены цагляныя пракладкі. У выніку сейсмічнага штуршка секцыі падскокваюць, пракладкі рушацца, а будынак устойліва трымаецца. Хрыбет, калі можна так сказаць, землятрус яму не зломіць.

Што і здарылася ў нашым выпадку. А землятрус быў досыць магутным. Сем з палавінай балаў па шкале Рыхтэра. Землетрасенне такой сілы лічыцца разбуральным.

Мы — а гэта пісьменніцкая дэлегацыя, якая прыехала ва Узбекістан для правядзення Дзён беларускай літаратуры і мастацтва — выйшлі з гасцініцы на пляц. Усе сучасныя шматпавярховыя будынкі стаялі цэлыя і непашкоджаныя. Яны, як і наша гасцініца, трохі пападскоквалі секцыямі ў час падземных удараў, страцілі цагляныя пракладкі і стаялі цэлыя і непарушныя.

Затое на стары горад, па якім мы наважылі прайсціся, было цяжка і тужліва глядзець. Будынкі аблогам ляжалі на доле. Сярод такіх разбураных ці напаўразбураных будынкаў былі крамы, магазінчыкі, розныя склады. Але нават намёку на рабаўніцтва не было.

Ташкент мужна, з усведамленнем сваёй вартасці, гонару перажываў бяду, якая на яго абрынулася.

Назаўтра мы мусілі развітацца з Ташкентам. Між тым падземныя ўдары сілай тры-чатыры балы працягваліся цэлы дзень.

Заключнае пасяджэнне і канцэрт былі прызначаны ў Рэспубліканскім палацы культуры. Падземныя ўдары працягваліся. Вялізны зал быў поўны. Прэзідыум — кіраўнікі рэспублікі, актыў і мы, ганаровыя госці, таксама занялі свае месцы. Над намі, прэзідыумам, вісела агромністая люстра. У час падземных штуршкоў яна гойдалася. Думкі ва ўсіх былі бадай аднолькавыя: а што калі гэтая махіна адарвецца, абрынецца на дол.

Тым не меней пад гэтыя штуршкі спявалі — хорам і сола, балетныя групы танцавалі і ўсё астатняе было чын чынам, як заведзена. Начаваць у гасцініцу мы не пайшлі. Паддаліся ў аэрапорт. Амаль усе мы былі на вайне, зведалі бамбёжкі, артылерыйскія, мінныя абстрэлы. Там нас ратавала зямля, мураваныя сцены, варонкі.

Тут нішто не ратавала. Зямля была хісткай, ненадзейнай.

Пад раніцу з намі прыехалі развітацца ўзбекскія пісьменнікі. Старэйшы з іх, Уйгун, сказаў:

– Ой, страшна. Не толькі вам, а і нам. Відаць, мы награшылі, калі разгневалася сама зямля…

## Сустрэча з каракалпацкімі пісьменнікамі

У час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане, нашу пісьменніцкую групу накіравалі ў Каракалпакію, аўтаномную рэспубліку. Нас было трое: Пімен Панчанка, Аляксей Пысін і я. Самалётам мы прыляцелі ў Нукус.

Варта сказаць: да таго часу Каракалпакія памяняла сталіцу, перанёсшы яе ў другое месца. Нас спаткала новая гасцінічка, дзе яшчэ бачыліся сякія-такія недаробкі. Але ў кожным нумары, які пахнуў вапнай і свежай фарбай, ляжаў брусок свежага мыла і нават бутэлечка з адэкалонам.

Нукус суседнічае з пустыняй. Гаспадары, якія за нас адказвалі, на прамілы бог прасілі нас не торкаць нос у яе пясчаныя абсягі. Маўляў, згубіцеся і ніхто вас не знойдзе.

Камічны выпадак адбыўся ў калгасе, куды мы прыехалі. Клуб у гэтым калгасе нагадваў сапраўдны палац. Агромністы, прасторны, ён, відаць, мог змясціць больш за тысячу чалавек. Да таго часу, калі мы прыйшлі, ён быў паўнюткі. Відаць, нехта пусціў чутку, што прыехалі артысты.

Калі публіка ўбачыла, што мы, трое, не маем ніякіх музычных інструментаў: ні акардэонаў, ні гітар, ні нават барабанаў, яна дружна павалілa на выхад. Дарэмна Пімен Панчанка, ускочыўшы, махаў рукамі, стараючыся нешта растлумачыць. Ніхто яго не слухаў. Народ ірваўся на прастор, дзе веяў свежы лагодны вецер і вісела над зямлёй не падобнае на наша, але таксама зорнае азіяцкае неба. Зал апусцеў. Толькі невялікая купка людзей, відаць, свядомых кіраўнікоў калгаса, засталася ў агромністай зале.

Мы хуценька сказалі свае прамовы і без асаблівага трыумфу пакінулі прэзідыум.

Назаўтра адбылася сустрэча з каракалпацкімі пісьменнікамі. Зал быў намнога меншы, чым у багатым калгасе, які, відаць, бавоўну вырошчваў.

Пісьменнікі, апранутыя ў звычайныя халаты, цюбецейкі, збіліся ў цесную кучку (іх было чалавек 25-30) і паселі падалей ад трыбуны. Не, ніякай варожасці ў іх позірках не было, проста гэта былі сур'ёзныя, разумныя людзі, якія не прывыклі да бурных, безпадстаўных сантыментаў.

Яны ведалі: Беларусь размешчана ў цэнтры Еўропы і думалі, відаць, што мы маем шырокія сувязі, што творы нашы вядомы ў свеце, ва ўсякім выпадку ў суседзяў. І выглядам сваім нібы сведчылі: нам далёка да вас, мы мясцовыя пісьменнікі, нас чытаюць у аулах, школах, нават у нашым невялікім Нукусе і большага мы не хочам. Хопіць з нас таго, што маем.

Мы пахвалілі, хоць не надта ведалі іхнія творы, іхні край, імклівую Аму-Дар'ю, і ў душы здаецца, пазайздросцілі ім.

З іх ніхто не выступіў акрамя даўно знаёмага нам высокага, стройнага старшыні праўлення Саюза каракалпакскіх пісьменнікаў Сулейменава, які прыязджаў у Мінск і тлумачыў нам, што чорныя калпакі, якія ўпамінаюцца ў "Слове аб палку Ігаравым", гэта і ёсць каракалпакі, якіх гісторыя загнала ў край пяскоў і пустынь.

## Кампазітар, піяніст

**Аляксей Клумаў пражыў толькі 37 гадоў. Але яго кароткае творчае жыццё засталося адметнай старонкай у гісторыі нашай музычнай культуры. Масквіч, ён прайшоў у кансерваторыі фартэпіянны клас легендарнага Г.Нейгаўза, кампазіцыі вучыўся у М.Гнесіна. На працу быў размеркаваны ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, дзе выкладаў фартэпіяна з 1937-га па 41-шы год. У Мінску вёў таксама плённую канцэртную дзейнасць, быў вядомы як выканаўца музыкі кампазітараў-рамантыкаў. Займаўся і ўласнай творчасцю.**

**Дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, заслужаны артыст Беларусі, дыпламант Усесаюзнага конкурсу піяністаў, Аляксей Клумаў у гады вайны працаваў у Ташкенце ды ў Маскве. Пры гэтым аддаваў значную ўвагу ў сваёй творчасці беларускай тэматыцы. Наогул, ён плённа скарыстоўваў беларускія фальклорныя матывы ва ўласнай музыцы. Прыклады — "Беларуская танцавальная сюіта", Капрыччыо для фартэпіяна, апрацоўкі народных песень для хору, для голасу з фартэпіяна або сімфанічным аркестрам. Ён пісаў творы на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, П.Броўкі, А.Астрэйкі, М.Клімковіча. У 1944 г. завяршыў працу над музычнай камедыяй у трох дзеях "Прыгоды Фрыца", або "Сорак чацвёрты дзень", на лібрэта А.Астрэйкі ды У.Няфёда. Твор да пастаноўкі рыхтаваўся Беларускім дзяржаўным тэатрам музычнай камедыі ў Маскве, аднак прэм'ера не адбылася.**

**Аляксей Клумаў лічыцца аўтарам аднаго з першых беларускіх фартэпіянных канцэртаў, які зрабіў вялікі ўплыў на развіццё гэтага жанру у нашай музыцы.**

**З дня нараджэння гэтага кампазітара, піяніста і педагога мінула 95 гадоў.**

**С.ВЕТКА**

## "Легенды Вялікага Княства": працяг будзе!

**Наша газета распавядала пра выданне прэзентацыйна-сувенірнага дыска са старажытнай беларускай музыкай "Легенды Вялікага Княства" ("ЛіМ" за 14. 09. 2001). Як паведаміла рэдакцыі каардынатар згаданага праекта Арына Вячорка, гэтая серыя з адроджанымі беларускімі музычнымі помнікамі, фальклорнымі апрацоўкамі і стылізацыямі мусіць мець працяг—рыхтуецца да выдання новы дыск пад рабочай назвай "Старажытная Зямля—Old Land". У запісе ўжо прымаюць удзел жаночы спеўны гурт "Гуда", новы склад гурта старажытнай музыкі з Гомеля "Стары Ольса", выканаўцы-дудары Тодар Кашкурэвіч і Аляксандр Лось, спявачка В.Емяльянчык. Акрамя гэтага, есць планы прыцягнення да запісу такіх знаных гуртоў, як "Тройца", "Зьніч" ды іншых...**

**Плануецца, што дыск "Старажытная Зямля—Old Land",таксама, будзе выдадзены ў сувенірным выкананні, з мэтай яскравага прадстаўлення беларускай музычнай спадчыны слухачам як у Беларусі, так і за яе межамі. Таму новы дыск беларускай медыявільнай серыі, таксама, будзе вырабляцца на адным с заводаў фірмы "Соні".**

**Як падкрэсліла спадарыня Арына Вячорка, фанаграфічная навінка будзе працягваць традыцыі "Легендаў Вялікага Княства", а таксама, дадасць новыя фарбы ў скарбонку музычнай спадчыны Беларусі. Перш за ўсё, на дыску будуць прадстаўлены глыбінныя фальклорныя пласты, а таксама, старажытныя мелодыі і інструменты.**

**У бліжэйшых планах творчай групы выдаўцоў серыі дыскаў "Легенды Вялікага Княства" збор матэрыялу,запіс і выданне беларуска-польскага дыска "Музыка Рэчы Паспалітай". Ад сябе дададзім, што для рэалізацыі гэтай творчай ідэі можна было б скарыстаць напрацоўкамі BMAgroup, якая ажыццявіла выданне беларуска-польскага дыска "Сэрца Эўропы in rock" з дапамогай Польскага Інстытута ў Мінску. Здаецца, неблагі вопыт для працягу добрасуседскага культурнага супрацоўніцтва.**

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

ПАМЯЦЬ

# Найбольш народны кампазітар

Аднойчы сустрэўшы на вуліцы нашага старэйшага кампазітара Анатоля Багатырова, я раптам спытаў у яго: "Як вы ставіцеся да Аляксея Туранкова, як чалавека і музыканта?". Анатоль Васільевіч здзіўлена зірнуў на мяне: "Вельмі добра. Я паважаў яго як інтэлігентнага чалавека і выдатнейшага кампазітара".

Такое прызнанне класікам беларускай музыкі адметнага таленту свайго калегі сведчыць пра многае. Лёс Аляксея Туранкова, як вядома, склаўся не вельмі ўдала, а ў пэўны перыяд і драматычна. Яго імя і яго творчасць на нейкі час нібы сышлі ў небыццё, дагэтуль захаваўшы кляймо "нядобранадзейнасці".

У перадваенны перыяд Туранкоў меў званне заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, быў выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР першага склікання. Я быў знаёмы з гэтым чалавекам, сустракаўся з ім. Добра ведаю яго творы: оперы, камерную музыку, рамансы, песні. Бяру на сябе смеласць сказаць, што гэта сапраўды найбольш народны беларускі кампазітар. Яго музыка ідзе ад усяго сэрца і да сэрца праймае. Чуеш праз яе і пакуты сялянскай працы, і чалавечы боль за зведаную нядолю і перажытыя горасці, і вялікую любоў да свайго роднага краю.

Майстэрства А. Туранкова — у глыбокім валоданні гукавай палітрай народнай беларускай музыкі, на глебе якой і ўзгадаваная ўся яго творчасць. Вынаходлівасць кампазітара выяўляецца і ў журботна-задуменных матывах "Думы", "Арлоў-брацццяў", і ў зухаватай жартаўлівасці твораў кшталту "Бульба", "Нашто бабе агарод", "Забалела, ты мая галованька".

Вялікі меладычны талент, любоў да народнага далі магчымасць Туранкову плённа працаваць у розных жанрах. У свой час набылі папулярнасць "Накцюрн", "Раманс" для скрыпкі, кларнета і фартэпіяна, саната для кларнета і фартэпіяна, фартэпіяннае трыо, "Беларуская сюіта".

Жыццё Туранкова і яго творчасць злучыліся моцна з лёсам беларускага народа, з Беларуссю, хаця нарадзіўся Аляксей Яўлампавіч Туранкоў у Пецярбургу (1886 г.). Там ён гадаваўся, вучыўся.

Як распавядаў сам Туранкоў, у сям'і з дзевяці чалавек ён быў самы малодшы. Нечакана на сям'ю зваліўся бяда: памёр бацька. Застаўшыся без сродкаў для існавання, маці аддала маленькага Аляксея ў гарадскі прытулак. У хуткім часе ён, як сын салдата, апынуўся ў гвардзейскай школе. Там вучыўся іграць на скрыпцы. Калі пазнаёміўся з нотамі, паспрабаваў пісаць музыку.

**— Я разумеў, што мае першыя творы — гэта толькі заяўка на будучае, — успамінаў кампазітар. — Не хапала сур'ёзных ведаў. Пачаў марыць пра вышэйшую музычную ўстанову. Але часта хварэла маці. Каб пракарміць сябе і яе, даводзілася жыць на выпадковых заробкі: іграў у рэстаране, на танцах, вяселлях. Нарэшце, я вытрымаў экзамен у доўгачаканую кансерваторыю. За навучанне трэба было плаціць. Дорага каштавалі лекі для маці. Каб неяк пражыць, даваў прыватныя ўрокі. Але вучобу давялося пакінуць. Праўда, у хуткім часе пашанцавала. Мяне ўзялі ў Паўлаўскі сімфанічны аркестр, якім дырыжыравалі выдатныя рускія і зарубежныя майстры. Іграў я на скрыпцы-альце, а ў вольны час пісаў музыку.**

**Аднойчы пасля канцэрта падышоў да мяне Аляксандр Глазуноў, які часта дырыжыраваў канцэртамі аркестра. Ён жа быў і дырэктарам кансерваторыі. "Бачу, ты хлопец настойлівы, здольны. Пазнаёмлюся я з тваімі кампазітарскімі спробамі. Дапамагу табе паступіць у кансерваторыю з правам бясплатнага навучання". Аднак скончыць кансерваторыю мне зноў не давялося, пачалася імперыялістычная вайна, і мяне забралі ў салдаты. Чатыры гады я прабыў на фронце. Дэмабілізаваўшыся ў Магілёве, я нібы пачуў унутраны голас, які паклікаў мяне ў гэты цудоўны край, я назаўсёды застаўся на Беларусі.**

Жывучы на Беларусі, Туранкоў піша музыку да спектакляў драматычных тэатраў, апрацоўвае мноства беларускіх народных песень. З'яўляюцца і першыя сімфанічныя творы.

У 1934 годзе Туранкоў пераехаў у Мінск. Перад самай вайной на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі адбылася прэм'ера яго першай оперы. — "Кветка шчасця" на лібрэта В. Барысевіч, П. Броўкі, П. Глебкі. Спектакль з вялікім поспехам прайшоў у час Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве.

Кампазітар з захапленнем расказваў, як яго ўразіла легенда пра кветку шчасця, з якім натхненнем ён працаваў над музыкай, дзе галоўнае месца заняла купальская песня "Ой, рана на Івана". Яна праходзіць лейтматывам праз увесь твор. "Гэта песня і прывяла мяне да думкі наконт стварэння оперы".

Туранкоў, поўны сіл, энергіі, працаваў над рознымі сюітамі, сімфоніямі, пісаў рамансы на вершы беларускіх паэтаў Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Танка. Меў шмат задумак і мараў. Але не ўсе яны здзейсніліся. Пачалася вайна. Страшэнная, жудасная.

Гарэў Мінск. Беларускія кіраўнікі на чале з першым сакратаром ЦК партыі П. Панамарэнкам уцякалі з палаючага горада ўпотай, нічога не зрабіўшы для эвакуацыі насельніцтва. Многія дзеячы культуры, мастацтва, навукі воляю лёсу засталіся ў Мінску. Вядома шмат выпадкаў, калі людзей, якія спрабавалі выехаць з горада, каралі як здраднікаў, што сеюць паніку. У гэты драматычны час Аляксея Туранкова напаткоўвае асабістае няшчасце — страта сям'і, жонкі. Кампазітар здолеў перажыць гэту трагедыю. З вялікай самаадданасцю пачынае ён аднаўляць знішчаныя пажарам рукапісныя творы: "Нота за нотай даводзіцца ўспамінаць, каб песні ажывалі зноў, — расказваў кампазітар. — Толькі за першы год вайны я аднавіў болей за 50 песень".

У цяжкія гады акупацыі Аляксей Туранкоў не "высоўваўся", у адрозненне ад кампазітара Міколы Шчаглова, які займаў пасаду загадчыка музычнага аддзела пры Цэнтральнай Беларускай Радзе. Да вайны Шчаглоў напісаў кантату "Сталін", крамлёўскія кіраўнікі далі ёй высокую ацэнку, і Мікола Шчаглоў зрабіўся адным з самых паважаных кампазітараў. Што прывяло яго да супрацоўніцтва з немцамі, мне невядома. Памятаю яго ў часы вайны: жвавы, энергічны, руплівы, калі я сустракаўся з ім, ён ветліва вітаўся, спяшаючыся ў тэатр на рэпетыцыю сваёй оперы "Лясное возера", якую ставіла Варвара Пукст. Опера была створана паводле народнай легенды пра каханне князя і сялянскай дзяўчыны. Пры падыходзе Савецкай Арміі да Мінска Мікола Шчаглоў уцёк у Нямеччыну.

У галодныя гады фашысцкай акупацыі А. Туранкоў працуе ў Мінску над аднайменнем оперы "Купалле", якую паставілі ў Мінскім гарадскім тэатры. Нароўні з такімі операмі, як "Яўгеній Анегін", "Кармэн" "Купалле" мела вялікі поспех. Прыязджалі замежныя музыкі, давалі ёй найлепшую ацэнку. Вядомы спявак Забэйда-Суміцкі аднёс оперу Туранкова "Купалле" да класічных твораў. Нямецкі музыказнаўца Гюнтэр Крафт, які з вялікай зацікаўленасцю вывучаў беларускую музычную творчасць, назваў яе шэдэўрам беларускай нацыянальнай музыкі.

На мой погляд, гэты твор мог бы і сёння ўпрыгожыць сцэну нашага тэатра оперы, зрабіўшыся такім жа з'явішчам, як "Паўлінка" ў Нацыянальным акадэмічным тэатра імя Янкі Купалы.

У тыя гады, я, малады хлопец, часта сустракаўся з Аляксеем Яўлампавічам. Мяне з ім пазнаёміў народны мастак БССР Валянцін Волкаў, з якім мы жылі ў адным доме па Маскоўскай вуліцы, перайменаванай новымі ўладамі ў Варшаўскую. Валянцін Віктаравіч з Аляксеем Яўлампавічам падвечар выходзілі на невялікі праменад. Іншым разам я далучаўся да іх. Мне вельмі імпанавала такое знаёмства. Я тады іграў у цымбальным ансамблі, якім кіраваў Зміцер Захар — вядомы віртуоз-балалаечнік. Маці мая ведала яго з даваенных часоў і ўпрасіла маэстра ўзяць мяне ў аркестр. Бо мне тады мінула шаснаццаць гадоў, і немцы маглі пагнаць у Германію. Зміцер Захар з гумарам сказаў, усучыўшы мне бас-цымбалы: "Нот не ведаеш, моцна па струнах не стукай, каб меней фальшу было". Гэта я выконваў дасканала.

Неяк я ўбачыў Аляксея Яўлампавіча. Высокі, хударлявы, ён ішоў у задуменні. Я з асцярогай падышоў. Ён некалькі хвілін угледзаўся ў мяне, быццам першы раз бачыў. Пачаў далікатна апраўдвацца, што не пазнаў мяне, а потым запытаў, як ідзе ў аркестры рэпетыцыя "Беларускай сюіты". Я адказаў яму, што ўчора мы ездзілі ў Баранавічы і там упершыню выконвалі яе. Пасля нашага выступлення за кулісы прыйшоў Генадзь Іванавіч Цітовіч. Усхваляваны, ён доўга цiскаў руку Зміцера Захара, шчыра гаворачы: "Дзякуй вам, дзякуй за цудоўнае выкананне "Беларускай сюіты", Дарэчы, слынны Генадзь Іванавіч Цітовіч таксама мусіў застацца на акупаванай тэрыторыі. Спрабаваў падацца на усход, але шляхі ўжо былі перакрытыя акупантамі і яму з сям'ёй і з хворай дачкой давялося вярнуцца ў Баранавічы.

Аляксей Туранкоў застаўся ў Мінску чакаць вызвалення. Але з прыходам Савецкай Арміі яго, як ні дзіўна, напаткала бяда. Туранкова абвінавацілі ў здрадзе Радзіме. Калі б сапраўды было так, ды, напэўна, у яго абароны ніколі не стаў бы вядомы праваабаронца, адвакат Міхаіл Сільвестравіч Гарачун, якога за яго прынцыповасць, сумленнасць паважаў Пётр Міронавіч Машэраў.

Вось што расказаў мне Міхаіл Гарачун:

**— Калі я пазнаёміўся са справай Аляксея Яўлампавіча Туранкова, я зразумеў, што ў ёй многа блытаніны. Да Туранкова не раз прыходзілі незнаёмыя людзі, называлі сябе партызанамі, падпольшчыкамі, але ніхто з іх ні разу не паказаў яму свайго пасведчання, што перад ім той, кім называўся, а не які-небудзь правакатар. За такімі людзьмі, як Туранкоў, якія мелі заслугі перад савецкім урадам, немцы сачылі вельмі пільна: за іх паводзінамі, за іх адносінамі да "новага парадку". Маглі быць усялякія недарэчнасці. Гэта Туранкоў добра ведаў. Ведаў, што ў такім выпадку трэба было весці сябе асцярожна.**

**Аднойчы да яго ў кватэру прыйшла жанчына. Паказала сваё пасведчанне, а таксама ліст ад Панамарэнкі. Жанчына зрабіла на яго добрае ўражанне. Яе спакойны тон, жаночая цеплыня, шчырасць яе слоў, дазволілі Туранкову паверыць ёй. Яны абгаварылі ўсе дэталі бяспекі. Дамовіліся, што наступным днём яны сустрэнуцца зноў, каб разам рушыць у партызанскую зону. Цэлыя суткі Туранкоў не спаў. Назаўтра быў напагатове і стаў чакаць сувязную...**

Гадзіннік паказваў той час, калі яна мусіла прыйсці, а яе не было. Мінуты здаваліся за гадзіны, гадзіны за вечнасць. Страх апанаваў яго. Несустрымна білася сэрца, нельга было ўседзець на месцы. Нервова пачаў мерыць кватэру крокамі. Раптам нехта ляпнуў дзвярыма, на парозе з'явіўся незнаёмы чалавек. Спытаў: "Вы гатовы?" Туранкоў разгубіўся. Яго ахапіў дзікі, неўразумелы жах. Ён не чакаў такой неспадзяванкі. У галаве мільганула: "Хто ён? Мабыць, з жанчынай штосьці-небудзь здарылася. Ці не трапіла яна ў лапы гестапа, а гэты незнаёмы — правакатар?" Хваляванне перайшло ў цвярозы спакой: "Вы мяне зблыталі з кім-небудзь іншым." Незнаёмы суха вымавіў: "Жанчына, якую вы чакалі, не прыйдзе. Яна захварэла. У мяне няма часу. Выходзім хутчэй", Мужчына гаварыў цвёрда, рэзка адсякаючы слова ад слова. "Не чапляйцеся да мяне, я сабраўся ісці ў краму", — сказаў Туранкоў і рашуча выйшаў на вуліцу. Той увязаўся следам, схапіўшы Туранкова за плечы, павярнуў да сябе. Як з пад зямлі выраслі двое паліцаяў: "Чаго прыстаеш да старога?" — спытаў адзін з іх. "Ды мы тут, ды мы так..." — пачаў апраўдвацца мужчына і хацеў адысці. Паліцаі спынілі абодвух: "Што ён хацеў ад вас?" "Не ведаю, што яму патрэбна ад мяне... Першы раз бачу яго..." — адказаў спалохана Туранкоў. "Дзе працуеш?.. Пакажы дакумент..." Паліцаі, схапіўшы з двух бакоў недарэку-незнаёмца за рукі, павялі. Павярнуўшы галаву да Туранкова, арыштаваны зірнуў на яго так, бацькам вачамі дзве кулі ўсадзіў яму ў сэрца. "Гэтых вачэй я ніколі не забуду... Балючая памяць застанецца на ўсё жыццё", — гаварыў мне кампазітар. І я ніколі не паверу, што гэты прыветлы, добры чалавек мог зрабіць такое свядома... Гэта толькі не зразумелы збег акалічнасцяў, у якія трапіў Туранкоў, і віна тых, хто не змог умела арганізаваць варункі, каб пераправіць яго ў партызанскую зону, а затым у Маскву.

Так расказваў мне адвакат Гарачун...

Шукаючы матэрыялы пра жыццё і творчасць Аляксея Туранкова, я, да свайго расчаравання, нічога, акрамя лаканічных публікацый у "Беларускай музычнай літаратуры", даведніках Саюза кампазітараў і некалькіх радкоў у "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", не знайшоў. Вельмі быў здзіўлены, калі, гартаючы новую кнігу "Кампазітары Беларусі" Т. Мдзівані і Р. Сергіенкі, імя Туранкова не ўбачыў (як і шэраг іншых іменаў класікаў беларускай музыкі). Быццам кампазітар Аляксей Туранкоў кудысьці знік, і яго не існавала ў прыродзе. Такое ўражанне, што імя яго забытае, а творчасць выкраслена з музычнай культуры. А, напрыклад, для таго ж Міколы Шчаглова ў кнізе месца знайшлося. Я нічога варожага да гэтага кампазітара не маю. Як музыка ён заслугоўвае вялікай увагі і пашаны. Аднак, лічу, што кампазітара Аляксея Туранкова абысці было нельга. Без яго кампазітарскай дзейнасці немагчыма ўявіць вытокі глыбокага грунтоўнага, даследавання беларускага музычнага фальклору.

Калісьці, прыехаўшы ў Мінск, сусветна вядомы дырыжор Карл Эліасберг, пазнаёміўшыся з узорамі туранкоўскай камернай музыкі, быў вельмі ўражаны высокім прафесіянальным майстэрствам беларускага кампазітара. Адзначу, што творчасць Аляксея Туранкова — прыкметная вяха ў развіцці музычнай культуры.

Адзін знаёмы кампазітар выказаўся, што ўжо "не модны", што сёння слухача трэба выхоўваць на новых тэхнічных прыёмах і формах... Аднак сёння нам даводзіцца здзіўляцца, што музыка Моцарта ў свой век не магла сапернічаць з музыкай Антоніё Сальеры. Сучаснікі часта памыляюцца, даючы ацэнку таму ці іншаму твору. Толькі час пакажа, якая музыка будзе жыць вечна, а якая адамрэ, як ссохлае дрэва.

У багатай спадчыне Аляксея Туранкова — операх, сімфоніях, інструментальных кампазіцыях, рамансах, песнях — заўжды гучыць невычэрпная прыгажосць беларускай народнай музыкі, якая прайшла праз усю творчасць і жыццё гэтага добрага і прывабнага чалавека. У маім уяўленні Аляксей Туранкоў застаецца найбольш беларускім кампазітарам, бо ў яго творах жыве Беларусь.

**Уладзімір СВЯТЛОЎ,**

**кінарэжысёр, член Саюза кінематаграфістаў**

# Лёс, апалены часам...

***Уладзіслаў Галубок — постаць знакавая ў гісторыі беларускага мастацтва. Гэты чалавек стварыў першы беларускі тэатр. Ён адзін з тых, каго спачатку ўзнесла на вяршыню жорсткая і крывадушная эпоха 30-х гадоў, а потым сама ж і праглынула. Уладзіслаў Галубок — чалавек, які пакінуў яркі след у беларускім тэатральным мастацтве, літаратуры, жывапісе, рэжысуры...***

## РЫЦАР ТЭАТРА

Захапленне тэатрам пачалося з таго самага моманту, калі чатырнаццацігадовы Уладзіслаў убачыў у 1896 годзе спектакль украінскай трупы, што гастралявала па Беларусі. Спектакль зрабіў такое ашаламляльнае ўражанне на хлапчука, што Уладзіслаў сам узяўся за пяро і паспрабаваў напісаць п'есу. Потым была праца ў беларускай трупе пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага, першай, якая здолела з самадзейнага гуртка вырасці ў самастойны калектыў. У 1917 годзе ўзнікла Першае таварыства беларускай драмы і камедыі, якім кіравалі Фларыян Жданові і Усевалад Фальскі. Галубок становіцца акцёрам гэтага калектыву. А 10 жніўня 1920 г. "Група пад загадам Галубка" сыграла першы спектакль "Суд", пастаўлены па камедыі арганізатара калектыву. А потым — сотні, тысячы спектакляў вандроўнага тэатра Галубка і "галубянятаў". Спектаклі ставіліся ў наспех адбудаваных клубах, якія зімой не ацяпляліся. Праз выбітыя шыбы вольна гуляў вецер, гледачы сядзелі ў валёнках, кажухах, а артысты дрыжэлі ад холаду.

**Узгадвае Яўген Ціхановіч, мастак, зяць У. Галубка:**

**— Мая першая сустрэча з Галубком адбылася ў адным з райцэнтраў, куды прыязджаў вандроўны тэатр. Для спектакля прыстасавалі Народны дом, былую хату святара, там жа сканструявалі сцэну. Але тады яшчэ не было электрычнасці. Галубок папрасіў, каб прынеслі керасінавыя лямпы. Жыхары з ахвотай адгукнуліся на яго просьбу. Так што хутка святла ў хаце было больш чым дастаткова... І гэтак, з павагай і вялікай радасцю, сустракалі тэатр Галубка ўсюды.**

**Калі ж ён прыязджаў у Мінск, дык капелюшы здымалі, ветліва ўсміхаючыся, зусім незнаёмыя людзі. Многія проста крочылі побач з ім, і хутка Галубка ўжо абступаў сапраўдны натоўп...**

**Тым не менш, калі яму было прысвоена званне "народнага", Галубок жартаўліва абурався. "Што такое "народны"? — любіў ён казаць. — Цыгарэты ёсць "Народныя"... А вось "Заслужаны" — гэта да..."**

"Рыцар тэатра" — так часам называюць Уладзіслава Галубка. Напэўна таму, што ўсяго сябе аддаваў тэатральнай справе. Сам пісаў п'есы, ставіў іх, іграў на сцэне, выступаў у ролі музыкі і нават ствараў дэкарацыі разам з астатнімі ўдзельнікамі калектыву. У кожнай тэатральнай суполцы час ад часу адбываюцца падзеі, якія надоўга застаюцца ў памяці акцёраў.

**Багуслава, адна з дачок Галубка ўзгадвала эпізод, які здарыўся неяк падчас гастроляў:**

**— Аднойчы нам удалося намаляваць вельмі добрыя вясёлыя афішы. Мы расклеілі іх у раёне таварнай станцыі. Надвячоркам пайшоў дождж. Мы вельмі хваляваліся, што папсуюцца нашы афішы, і раніцай пабеглі паглядзець, што з імі сталася. І тое, што мы ўбачылі, вельмі здзівіла: над кожнай афішай нечая добрая клапатлівая рука зрабіла казырок, каб дождж не папсаваў ніводнай афішы.**

Нягледзячы на званне "народнага артыста", савецкая ўлада абвясціла Галубка "ворагам народа пад маскай драматурга". Як гэта і рабілася ў трыццаць сёмым, прыехалі за ім ноччу, арыштавалі, а пасля ў 1942 годзе родныя атрымалі паперу: Галубок памёр ад гіпертаніі. Нашчадкі і па сённяшні дзень не ведаюць, дзе пахаваны заснавальнік гэтай дынастыі.

**Узгадвае Яўген Ціхановіч:**

**— Вельмі цяжкую задачу я паставіў перад сабой пасля рэабілітацыі Галубка ў 1957 годзе. Трэба было дазнацца, калі расстралялі "ворага народа", дзе пахаваны... Але "справа Галубка" знікла назаўсёды, засталіся толькі рэабілітацыйныя заключэнні.**

**Я зрабіў у той час экслібрыс: з правага боку партрэт Галубка, з левага — турэмныя краты. Партрэт абвіты лаўровымі лісцямі, якія пераходзяць у кайданы. Але на выставе, якая праходзіла на пачатку васьмідзесятых, кайданоў ніхто не заўважыў: яны былі заклеены паперай. Нават пасля рэабілітацыі ўлада не здолела прызнаць уласнае злачынства...**

## МАСТАК

Калі талент перадаецца ад аднаго пакалення да наступнага, то з'яўленне ў дынастыі чарговага творцы — не дзіва. Але заўсёды ў гэтым ланцужку прысутнічае першае звяно. Уладзіслаў Галубок і быў тым першым звяном, паклаўшы пачатак цэлай дынастыі таленавітых нашчадкаў. Са спробы асэнсаваць з'яўленне на пачатку XX стагоддзя такой рознабаковай асобы, якім быў Галубок, і пачалася размова з **Вольгай, праўнучкай драматурга:**

**— Існуе такая тэорыя: з'яўленне значнай асобы абумоўлена пэўнымі ўмовамі. Час ад часу проста выспявае неабходнасць у чалавеку, здольным змяніць існуючы стан рэчаў. Напэўна, тады, на пачатку XX ст., і выспявалі ўмовы для з'яўлення такой асобы, як Уладзіслаў Галубок. Калі ж больш канкрэтна, то ён проста бачыў, што ёсць неабходнасць у стварэнні беларускага тэатра. І нічога звышасаблівага для гэтага не патрабавалася — толькі моцнае жаданне і любоў да справы. Гэта ўсё ў Галубка было. А тое, што п'есы пісаў, маляваў, — дык гэта ўжо ад Бога...**

**Ён быў самавучка, без аніякай адукацыі. А гэта значыць, што ў чалавека было дараванне адлюстроўваць наваколле рэалістычна. Ён увесь вольны час прысвячаў жывапісу — у яго была такая ўнутраная неабходнасць. Усе карціны вандравалі па вёсках разам з тэатрам. Часта гэта было адзіным мастацтвам, якое бачыў народ на той час.**

**Што тычыцца спадчыны Галубка-мастака, дык адна карціна знаходзіцца ў Літаратурным музеі, адна — у гасцёўні Галубка, дзве — у сямейнай калекцыі. Адну з гэтых карцін нам перадала актрыса Кацярына Мартыненка. Карціну гэту ёй падарыў сам Галубок, калі актрыса была ў шпіталі. Яна ўзгадвала, што той апекаваў яе, як бацька, і перад ад'ездам сказаў: "Мы па цябе вернемся, а каб і ты не забылася пра нас, вось табе пейзаж. Глядзі і папраўляйся". К. Мартыненка зберагла карціну і ніколі не развітвалася з гэтым маленькім эцюдам, аберагаючы яго як талісман.**

**Людміла ГУРМАН**

# Незаменны бас

Якія найбольш адметныя падзеі гэтага лета для калектыву Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі? Безумоўна, тыя, што звязаны з гастролямі. Некалькі тыдняў таму яны завяршыліся. Група пабывала ў Італіі, выступіла на оперным фестывалі ў Швейцарыі з вердзіеўскім рэпертуарам і з новай пастаноўкай "Багемы" Д.Пучыні, наведала Германію з канцэртнымі праграмамі. Тым часам, у калектыве адбылося "хатняе" свята, да якога неабыякава ставяцца і шматлікія прыхільнікі айчыннага опернага мастацтва: сваё 60-годдзе адзначыў народны артыст Беларусі Яраслаў Пятроў.

Ураджэнец Буда-Кашалёва, выхаванец нашай нацыянальнай вакальнай школы, цудоўны беларускі бас, адораны яркай знешнасцю, ён без малога тры дзесяткі гадоў служыць роднай опернай сцэне. І літаральна з часу свайго дэбюта застаецца ў ліку улюбёнцаў публікі. А дэбютаваў ён тут яшчэ студэнтам, у партыі Грэміна ("Яўгеній Анегін").



У багатым і разнастайным рэпертуары артыста псіхалагічна складаныя вядучыя ролі ў операх "Русалка", "Іван Сусанін", "Князь Ігар", "Барыс Гадуноў", "Дон Карлас", "Вайна і мір", "Фауст", "Іяланта", характарныя і камедыйныя вобразы ў "Севільскім цырульніку" ды ў музычных казках для дзяцей, камерныя творы, народныя песні... Адказнае, самааддананае стаўленне да кожнай працы, да сустрэчы з публікай дазваляе Яраславу Пятрову захоўваць, што называецца, прафесійную форму і заставацца ў цэнтры творчага жыцця Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі.

**С.Б.**

*На здымку: Яраслаў Пятроў у ролі Кутузава ("Вайна і мір")*





КРЫТЫКА

### *“Вожык”, № 7*

**Выйшаў з друку чарговы нумар часопіса сатыры і гумару “Вожык”. Шмат цікавага знойдзе чытач на ягоных старонках. Тут і фельетоны, і гумарэскі, і вершы, і карыкатуры. Іншымі словамі,**



**“Вожык”, як часопіс, які любяць у народзе, смяецца разам з народам над усім тым, што перашкаджае нармальна жыць і працаваць. Бюракраты, прайдзісветы, прыстасаванцы, перастрахоўшчыкі, злодзеі, ашуканцы — вось тыя, з кім актыўна змагаецца калючы санітар. У сёмым нумары часопіса друкуюцца цікавыя падборкі вершаў Васіля Зуёнка, пародый Паўла Саковіча, байка Анатоля Крывіцкага “Ліса і пеўні”, верш Анатоля Гарачова “Мода”, гумарэскі Анатоля Зэкава “Гісторыйкі”, Міколы Падабеда “Паляванне на мух”, фельетоны Рыгора Яўсеева “Баранавіцкая дармаўшчынка”, Юліі Зарэцкай “Сваявольствы Цуды-Юды”, “Анекдоты ад Ахрэма” пад рэдакцыяй Паўла Місько. Свае вершаваныя мініяцюры “Ліса і казёл”, “Манія вялікасці”, “Пра ўладу”, “Ірванулі” прапануе ўвазе чытачоў Міхась Журавін. Прадстаўлены ў нумары папулярныя рубрыкі “Класікі смяюцца”, “У гэтым свеце ўсякае бывае”, “Думкі ўголас”, “Цыдулькі на слупах”, “На дарозе ў Аўцюкі”, “З куфэрка Несцеркі”, “Творчасць нашых чытачоў”, “Вожыку пішуць...”, “Як стала вядома...”, “Гумар з-за бугра”, “Іголкатэрапія”, “Коўзанкі”, “Досціпы славутых”, “Усмешкі” і іншыя. Прыхільнікі гумарыстычнага серыялу — аповесці Пятро Васючэнкі “Залёты гаспадара Нупрэя Ліштэлкі” азнаёмяцца з чарговым раздзелам пад назвай “Нашы штаны”.**

**Не забывае “Вожык” і пра дзяцей: у старонцы “Калючык” змешчаны вершы Валянціна Лукшы, Рыгора Яўсеева, казка Васіля Феранца, вясёлы слоўнік вучаніцы 4 класа сярэдняй школы № 36 сталіцы Дарыны Шабалінай, а гэтаксама галаваломкі пад рубрыкай “Конкурс: Акадэмія кемлівых”.**

**Тыя ж, хто любіць спяваць, знойдуць у рубрыцы “Музычная ўсмешка” вясёлую песеньку з рэпертуару ансамбля “Сябры” пад назвай “Хто на мора, хто на Вячу...” (словы Уладзіміра Мазго, музыка Мікалая Сацуры). Новую крыжаванку для аматараў з карысцю бавіць час склаў Валянцін Жвалеўскі.**

**Дасціпныя малюнкі вядомых мастакоў-карыкатурыстаў Алега Папова, Аляксандра Каршакевіча, Івана Бокія, Яўгена Царкова, Аркадзя Гурскага, Пятро Козіча, Андрэя Слуцкага, Уладзіміра Чуглазава, Паўла Шычко, Аляксандра Пятрова, Віталя Кушнярэвіча друкуюцца ў гэтым нумары.**

**Мяркуем, нікога не пакіне раўнадушным, прыкладам, вось гэты верш таленавітага паэта Васіля Зуёнка “Дваісты”:**

***Звычка звыклая,***
***Ды разнаякая:***
***Адзін — «выкае»,***
***Другі — «якае»:***

***Вы зрабіце —***
***І мне далажыце,***
***Каб я раструбіў,***
***Як я зрабіў!..***

**Так што выпісвайце, купляйце, чытайце “Вожык”! Смейцеся разам!..**

**Уладысь ЦВЯТКОЎ**

# Проста голас

Алесь Аркуш — паэт, эсэіст, стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў, але перадусім — ідэолаг новай культуры. Адзін з апошніх камісараў беларускай літаратуры, якая перастала быць рэгулярнай арміяй пісьменнікаў, а разбрылася па рэгіёнах і суполках. Ён не айчынны Фурманаў, а хутчэй тутэйшы бацька Махно, аднак яго камізэлькі выглядаюць не менш каларытна і переканаўча, чым нягнуткія рэвалюцыйныя скуранкі. “Сур”ёзны дзядзька” — гавораць пра яго маладзейшыя літаратары, для якіх словы “таварыства” і “воля” — пусты гук, а паняцце літаратура рэдукавалася да камічнага “літ”.

“Як кулямёт зараджана друкарка...” — так пачынаецца адзін з вершаў кнігі “Проста ў сярэдзіну”, што міжвольна наводзіць на думку, што ў аснову назвы новага зборніка пакладзены малапаэтычны вобраз мішэні. Для “ваяра альтэрнатывы”, якім па звычцы ўспрымаецца гэты палачанін, цалкам натуральнае жаданне цэліць у сярэдзіну. Адказная, амаль місіянская роля, якую адвяла яму Новая Літаратурная Сітуацыя, абавязвае яго быць не толькі таленавітым прадзюсерам ад кнігадрукавання, але і пісьменнікам, які ўвасабляе заўсёды прывабныя ідэі волі не толькі ў маніфеставанай публіцыстыцы, але і ў паэтычнай практыцы.

Між тым, аркушаўскае “проста ў сярэдзіну” — сінонім не снайпераўскай дакладнасці, а мастацкай прастаты. Верш, аднайменны з назваю зборніка, прысвечаны безумоўна выбітнаму расейскамоўнаму пісьменніку Генадзю Айгі, аднак яго змест знаходзіцца па-за апісанparam рэальнага знаёмства з паэтам, па-за вобразам канкрэтнай асобы, і нават па-за часам, хоць апошні і спрабуе нахабна праскочыць у апавядальную тканіну твора пазнавальнымі “лукойламі”, “газпрамамі” і “менатэпамі”, якія, дзякуючы намаганням Аркуша, з монстраў капіталістычнай рэальнасці ператварыліся ў даволі бяскрыўдных міфалагічных істотаў. “Проста ў сярэдзіну” — верш-роздум над сутнасцю і прызначэннем мастацтва. Непаэтычна гэтую сутнасць можна было б акрэсліць як злучэнне зямлі і неба, якое дасягаецца альбо інтуітыўна, альбо з дапамогай культуры. Аднак пераказ, прамое казанне — не заўсёды самы ўдалы шлях данясення сэнсу, таму лепш звярнуцца да аўтарскага тэксту:

*проста голас проста ў сярэдзіну*
*у цэнтар у глыбіню*
*як каменчык у студню*
*і кругі і ціхі водгук*
*гэтак проста, як сцізорыкам*
*выразаць свістульку каб без*
*дай прычыны гукаць аблокі*

Было б няблага, каб гэты твор стаў для Алеся Аркуша паваротным. Соц-артаўская плакатнасць злаканізавала адзін час творчасць гэтага вольнага літаратара проста да непрыстойнай сціласці, з-пад якой, тым не менш, не вельмі выпрастацца ўласцівая яму філасафічнасць. Прастата, увогуле, іншы раз забівае паэта хутчэй, чым стрэл у спіну. Менавіта прамагаварэнне, якім сёння падмяняюцца метафара і міф, з’яўляецца, на думку крытыкаў, галоўнай пагрозай сучаснага мастацтва, незалежна ад таго, традыцыйным ці авангардным выглядае яно з боку формы. Паэтычная прастата не павінна зводзіцца да жывёльнага крыку, але вымушана культывваць голас прыроды. Як заўсёды, мастацкасць — гэта ўдала вызначаная сярэдзіна.

Такім залатасярэдзінным творам выглядае і “На пошукі змея Нарата”, які, даруйце за каламбур, прадстаўляе Аркуша адначасова як наратара (г.зн. апавядальніка) і як наратолага — спецыяліста па бразільскіх змеях. Міф аб апошнім і стаў нагодай паразважаць, зноўтакі пра мастацтва, якое не толькі адмаўляецца ісці наўпрост, але і паўсюдна імкнецца залезці ў чужую скуру.

***О, гэты смяльчак, Раул Боп,***
***які накінуў на шыю Змею Нарата***
***пятлю і засіліў гразу сэльвы Амазонкі.***
***Ён так марыў ажаніцца***
***з дачкой каралевы Лузіі,***
***што ўлез у скуру сваёй ахвяры***
***і змеям выправіўся***
***на пошукі абранніцы.***
***— Куды-ж ты, Змей Нарата? —***
***пытаюцца***
***ў Раула Бопа жыхары сэльвы.***
***— Хачу я бачыць дачку***
***каралевы Лузіі, —***
***адказваў усім смяльчак Раул.***
***Няпросты ён выбраў шлях —***
***праз сэльву,***
***праз балоты, праз выпрабаванні.***
***Уладзімер Славук намаляваў бы***
***шыкоўныя ілюстрацыі***
***да гэтай гісторыі.***

Шлях сапраўднага мастацтва — заўсёды няпросты: не толькі праз сэльву, але і праз церніі. З другога боку, сапраўдная прастата — як сінонім геніяльнасці — гэта вынік складанага шляху, які праходзіць душа. Аднак, нават без пафасных эпітэтаў, мастацкасць — як крытэрый вызначэння літаратурнай творчасці — набываецца за кошт ахвяравальна-дабравольнага ўскладнення жыцця. Менавіта так трэба расцэньваць стварэнне абавязковых нормаў, правілаў, без якіх самая авангардная культура не можа доўга праіснаваць, каб не надакучыць спажыўцу. Нішто так хутка не раздражнае, як анархія.

Таму так важна захоўваць цэнзараў самых разнастайных гатункаў, і, у першую чаргу, рэдактараў і карэктараў, як цэрбераў ад літаратуры. Выключна на сумленні рэдактараў знаходзіцца такі, да прыкладу, перл: “Па палянцы па далінцы //скачуць конікі ў абдымцы”. Відавочна, што дапрацоўкі патрабаваў і цыкл “Птушыны рай”, дзе метафарычнасць аркушаўскай думкі раз за разам вынішчаецца нейкай зухавата-маладнякоўскай інтанацыяй. Да прыкладу: “Лятаць — вось самае галоўнае! Няма калі спачываць-заснуць!” Ці з другога “птушынага” верша: “У кожнай ёсць душа і цела. І цела за душой ляцела.” Вобраз птушкі ў гэтым цыкле прымушае згадаць пра рычардбахаўскую чайку з іменем Джанатан Лівінгстон, але беларускі падвід здаецца значна драбнейшым.

Даспадобы прыйдуцца чытачу хіба што аркушавы вераб”і: нахабныя, самаўпэўненыя, прывабныя сваім жаданнем перайначыць лёс, вырваць у жыцця лепшы кавалачак хлеба. Верабей — парыжскі ці полацкі — дэманструе вітальнасць, жыццяздольнасць, якой, безумоўна, не хапае беларускай літаратуры, і па якой так бядуе паэт і культуртрэгер Алесь Аркуш. Ведаючы яго вечны клопат, пачынаеш без іроніі ставіцца да даволі правакацыйных радкоў, накшалт:

***Сёння ізноў іду на ўзбярэжжа Сены***
***карміць тутэйшых вераб’ёў —***
***нямоглы Парыж цярпліва***
***чакае маіх вершаў.***

Парыжска-кракаўскія вершы, аб’яднаныя ў цыкл з візуальна-запамінальнай назвай “Чыгунныя масты па чарзе адпускаюць свае рукі ад берагоў”, здаюцца найбольш роўнымі і тонкімі. Прычынай таму не роўнасць еўрапейскіх дарог і не празрыстасць паветра, а самота, якая адмыла паэта ад прыўнесенага звонку і дала дакладны і чысты адбітак — правінцыйны рамантык, здольны перавярнуць свет, калі яму дадуць кропку апоры.

Тэма вонкавага шматгалосся, якое заціскае “чысты голас” — дастаткова актуальная для Аркуша. З нізкі “Закуты ў цяжар цела” хочацца вылучыць верш “Не думаць пра сон і паразы”, што якраз і ўздымае гэтую праблему, істотную для многіх сучасных паэтаў, якія сталія ахвярамі паліфаніі, бо не змаглі ідэнтыфікаваць сябе. Верш варта чытаць без першага катрэна:

***Слухаць, як гойсае вецер,***
***Што робіць падушны вопіс…***
***Смерць — непісьменная лэдзі —***
***Паставіць свой крыжык-роспіс.***

***Закуты ў цяжар цела,***
***Шукаеш таемныя дзверы,***
***Здаецца, патрэбная смеласць,***
***А досыць адной веры.***

***На беразе вечнага часу,***
***Дзе робяцца друзам выгоды,***
***З апошняга хлеба запасу***
***Ты корміш птушку Свабоды.***

Птушка міра, птушка шчасця, цяпер вось і птушка Свабоды... Апошняя здаецца відавочным анахранізмам у сучаснай літаратуры, дзе постмадэрністычная плюральнасць (поўны пафігізм, уласцівы ментальнасці жыхароў капіталістычных дзяржаў з даўно адбудаваным інстытутам дэмакратыі) злучылася з унармаванасцю, дазіраванасцю друкаваных плошчаў, якую можна суаднесці хіба што з часамі ваеннага камунізму. Свабода была і застаецца прыватнай справай асобна ўзятых рамантыкаў, такіх, як Алесь Аркуш.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

*Алесь Аркуш. Проста ў сярэдзіну. Вільня,2001.*

АНОНС

# “ІР” у міжсезонне

Ліпень-жнівень-верасень... Лічыцца, што гэта традыцыйны час вакацый. З аднаго боку, нібыта актывізуецца гастрольнае жыццё, фестывальны рух. З другога, тэатральна-канцэртныя ўстановы адпачываюць: міжсезонне. Час вакацый па-свойму адлюстраваўся і ў планах дзейнасці Польскага інстытута ў Мінску на трэці квартал. Ён меней звычайнага насычаны імпрэзамі ды сустрэчамі, пераважаюць анонсы новых выданняў па розных аспектах польска-беларускіх стасункаў — у гісторыі, у літаратуры, у галіне інтэлектуальных ды культурных ініцыятыў.

І ўсё ж на верасень замоўлена некалькі адметных акцый, у ажыццяўленні якіх, поруч з беларускімі партнёрамі, бярэ ўдзел “ІР” — Польскі інстытут у Мінску. У межах праекта “Восень польскай культуры” чакаюцца паказы тэатраў “К-2” ды “Бюро падарожжаў” з Вроцлава (спектаклі “Зорка” ды “Кармэн Фунэбрэ”): госці выступяць падчас Міжнароднага фестывалю “Белая вежа” — 2002 у Брэсцкім абласным тэатры драмы і музыкі. На гэтай жа сцэне, дарэчы, рыхтуецца прэм’ера спектакля “Вялебныя” паводле С.Мрожака. Кінематаграфісты Польшчы ды Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі замаўляюць прэм’еру фільма “Прывітанне, Тэрэска” (рэжысёр Т.Катлярчык), якая мае адбыцца ў Мінску 26 верасня. З праектамі ў галіне мастацтва музычнага пакуль — ціха. Але ўжо ў кастрычніку, з пачаткам канцэртнага сезона, мы пачуем новыя варыяцыі на тэму беларуска-польскіх стасункаў у музыцы. Планы наконт гэтага ёсць.

**С.ВЕТКА**

## Куляшоўскі радок у маёй біяграфіі

**Памяць міжволі вяртае мяне ў 1954 год. На накіраванні Магілёўскага абласнога аддзела адукацыі я прыехаў у Касцюковіцкі раён, дзе стаў дырэктарам і адначасова выкладчыкам гісторыі Хоцімскай сямігадовай школы. А знаходзілася яна ў некалькіх кіламетрах на поўдзень ад Самацэвіч — радзімы Аркадзя Куляшова. Гэта, вядома, шмат у чым і паспрыяла таму, што я яшчэ больш палюбіў творчасць Аркадзя Аляксандравіча. Дый і ў Самацэвічах бываў ці не штодня, бо быў выбраны дэпутатам мясцовага сельскага савета. Аднойчы пашчасціла сустрэцца і з самім А.Куляшовым — Аркадзь Аляксандравіч якраз завітаў на радзіму.**

**Сустрэча была хоць кароткай, але цёплай, шчырай, таму і запомнілася мне на ўсё жыццё. На развітанне А.Куляшоў падарыў мне першы свой зборнік вершаў з дарункавым надпісам — гэтую кнігу я беражліва захоўваю па сённяшні дзень як успамін аб сяброўскіх стасунках з народным паэтам. Менавіта аб сяброўскіх, бо пасля я з ім рэгулярна перапісваўся. Аркадзь Аляксандравіч ахвотна адказваў на многія мае пытанні, калі даведаўся, што гаворка ідзе аб адкрыцці ў Самацэвічах яго музея. Прыслаў мне чарцёж-схему той хаты, у якой нарадзіўся. Наведваўся я да А.Куляшова ў Мінск, а ў Хоцімск прыязджаў да яго маці Кацярыны Фамінічны.**

**З цягам часу ўдалося сабраць шмат цікавых рэчавых доказаў, пісьмовых дакументаў аб жыцці і літаратурнай дзейнасці паэта, што і дало магчымасць адкрыць у Самацэвічах Літаратурны музей А.Куляшова, які працаваў да чарнобыльскай трагедыі. Цяпер экспазіцыя яго разгорнута для наведвальнікаў у Новых Самацэвічах, якія пабудаваны ў чыстай ад радыяцыі зоне ля вёскі Ліпаўка на Касцюкоўшчыне.**

**Сам жа я жыву ў вёсцы Іканы Барысаўскага раёна і аб сваіх сустрэчах з Аркадзем Аляксандравічам расказваю вучням Іканаўскай базавай школы. Прыгадваю і 1954 год, з якога па сутнасці ўсё і пачалося.**

**У.ЛАМІНСКІ,**
**былы дырэктар Літаратурнага музея А.Куляшова.**

## Да 200 - годдзя Ігната Дамейкі

**2002 год абвешчаны годам Ігната Дамейкі (1802—1889) — нашага славутага земляка, удзельніка вызваленчага руху ў Беларусі, Літве і Польшчы, сусветна вядомага вучонага, філосафа, асветніка, культурнага дзеяча.**

**У адпаведнасці з планам мерапрыемстваў, зацверджаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, нацыянальная Акадэмія Навук Беларусі, Карэліцкі райвыканкам пры падтрымцы Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА 12 верасня 2002 г. у г.п. Карэлічы праводзяць V Карэліцкія чытанні "Ігнат Дамейка — светач сусветнай цывілізацыі".**

**Плануецца абмеркаваць наступныя праблемы:**

**1. Спадчына Ігната Дамейкі ў кантэксце сучаснасці.**
**2. Дзейнасць Ігната Дамейкі — феномен міжкультурнага ўзаемадачынення.**
**3. Ігнат Дамейка як рэфарматар навукі і дзеяч культуры: гістарычны кантэкст.**
**4. Шматграннасць духоўнага светапогляду вучонага.**
**5. Ушанаванне памяці Ігната Дамейкі на Беларусі.**

**Запрашаюцца да ўдзелу ўсе зацікаўленыя асобы і ўстановы.**

**Заяўкі на ўдзел (з указанием прозвішча, імя і імя па бацьку, вучонай ступені, пасады, хатняга і службовага адраса, тэлефона) просім дасылаць да 30 жніўня 2002 г. на адрас: Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны 220050, Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15. 8(017) 220-93-50; 206-57-97.**

**АРГКАМІТЭТ**

# Закружы мяне, дзень!

## ПАМЯЦІ ЗАСЛУЖАНАГА ЎРАЧА РЭСПУБЛІКІ ЕЎФРАСІННІ БРЭУС

Яе ніхто не праводзіў у Мінску, ніхто не сустракаў у Глуску. І яна была рада гэтаму, так ёй самой хацелася. Сабралася ехаць, бо даўно не была ў родных мясцінах.

Блішчыць, іскрыцца на сонцы свежы снег, які выпаў ноччу. Яна ідзе вуліцай свайго дзяцінства. Глядзяць вокнамі старажылы-дамкі і, здаецца, пазнаюць яе. Даваенных пабудоў засталося мала. Іх замянілі новыя, сучасныя, з прыгожымі мансардамі і верандамі. Па абодва бакі вуліцы перапляліся кронамі ліпы, клёны і бярозы, заінелыя і прыцярушаныя снегам...

У брамцы паказалася бабка Фядора. Яна доўга ўглядалася блізарукімі вачыма ў твар Ефрасінні Рыгораўны:

— Фроська... Ці ты гэта?

— Я, Фядора Іванаўна. Добры дзень, вам! Рада бачыць вас. Як здароўечка?

— Ды якое там здароўечка. Ад старасці ніхто яшчэ ў скокі не хадзіў.

— А вось вы пойдзеце, пойдзеце...

— Няўжо пажартаваць захацела над старой, Фросечка?

— Ды якія там жарты, Фядора Іванаўна. Акуляры прывезла вам. Ці мо забылі, што абяцала? Зараз надзенеце і ўсе вашы мінусы стануць плюсамі.

Дастала акуляры і прымерыла іх бабцы.

Фядора Іванаўна доўга яшчэ нахвальвала акуляры, дзякавала і аж свяцілася ўся ўдзячнасцю. Пацягнула ў дом. Але Ефрасіння Рыгораўна адмовілася:

— Зайду. Абавязкова. Крышачку пазней. Спачатку хачу на сваю хатку глянуць, пабыць там.

Хатка была побач, праз тры двары. Старэнькая, з пачарнелым ад часу зрубам. Яшчэ бацька, як сышоўся з маці, будаваў. Бярвенні смаляныя, моцна звязаныя па вуглах. Хатка стаіць на невысокім камяністым падмурку — надзейным і трывалым сваім апірышчы, якое не дае ёй ні згорбіцца, ні пахіліцца. Колькі перабачыла хатка на сваім доўгім вяку! Каго толькі ні прымала, ні абагравала. У ёй знаходзілі сабе прытулак, драбок солі і кавалак хлеба самыя розныя людзі, бо ведалі, што тут не адмовяць, апошнім падзеляцца, паспрыяюць, паспачуваюць. У хатцы жыла дабрата — светлая, чыстая. Тут не заводзілі размоў, ці трэба быць добрым, ці лёгка быць добрым. Тут былі добрымі. Бацькі, а ад бацькоў і іхнія дзеці — чатыры дачкі.

Хатка... Як шмат яна помніць, як шмат магла б расказаць — пра тое, як моцна і чыста кахалі адзін аднаго бацькі, як любілі сваіх дзяцей.

Хто сказаў, што дзяцінства прайшло?.. Зазірніце ў вакно. Яно, дзяцінства, там, у хатцы. Чуеце — смяецца, шчабеча, чытае па складах: "Ма-ма", "та-та". Спяшаецца ў школку, на калгаснае поле. Яно ў матуліных казках, песнях, былінах. На жылістых, мазолістых руках бацькі. Ён пакідае яго пад самую столь і яно, трапяткое, як тое птушаня п'е нагбом шчасце.

Памёр бацька, не стала маці. А хатка стаіць — старэнькая, пад новым дахам. Цяпер у ёй жыве памяць і сама хатка — памяць.

Рыпіць брамка, рыпіць пад нагамі снег. Ціўкаюць капяжы. Некалькі буйных бусінак-кропель каўзанулі казытлівым халадком па твары. Шчоўкнуў раз-другі замок. Адчыніліся дзверы. Увайшла, ціха ступаючы, як быццам баялася патрывожыць чыйсці кароткі сон. Перайшла з першай паловы ў другую. Паставіла на зэдлік сумачку, саквояжык і хутка выйшла. Вярнулася з ладнай бярэмкай дроў. *Паклала ля печы і яшчэ* раз прынесла столькі ж. Праз хвілін колькі з коміна паваліў густы бялёсы дым. Весела гарэлі, патрэскваючы, дровы ў печы-грубцы. Не распранаючыся, расклала на стале прывезеныя прадукты, гасцінцы. Пачала рыхтаваць абед. Тым часам у хатцы пацяплела. З цяплом прыйшла ўтульнасць. Распранулася. Падсмажыла ў печы катлеты, закіпяціла чай. Паабедала. Доўга сядзела, не распранаючыся, каля грубкі, углядаючыся ў агністыя матылі полымя. Зноў прайшлася па пакойчыках. У хатцы амаль усё засталося такім, якім было пры бацьках. На покуце ручнічок, рукамі маці вытканы і вышыты. Вісіць там, дзе яна яго вешала. Вунь куфэрак, зроблены бацькам з тонкай карункавай разьбой-вяззю і падораны маці ў дзень абручэння. Кожная рэч да болю родная, памятная. На сцяне — фатаграфіі пад шклом. Сярод мноства здымкаў ёсць асабліва ёй дарагія, на якіх бацькі, сёстры у розны час жыцця, у вайсковай афіцэрскай форме.

Вайна... Яна, як шалёная навала ўварвалася ў яе жыццё. Бамбёжка Мінска. Першыя ахвяры, жахі... Галоўны ўрач бальніцы аддае загад: "Усіх цяжкахворых эвакуіраваць. Тэрмінова", Яна ўваходзіла ў лік цяжкахворых. І як было крыўдна. Сама ўрач. Яе дапамога, як ніколі, патрэбна хворым, раненым. Дык вось жа трэба, у такі адказны, цяжкі час самой захварэць. Да таго ж нясцерпна ныла сэрца ад няведання, дзе муж — ці ён у сваім Дзяржплане, ці яшчэ дзе, што з ім? Як, не пабачыўшыся, не развітаўшыся з ім, паехаць? І папрасіць няма каго, каб адшукалі, паклікалі. Горка, наўзрыд заплакала, схаваўшы твар у падушку. Потым, спахапіўшыся, злуючыся на сваю нястрыманасць, слабасць, прыкусіла да крыві губы: што падумаюць, як убачаць, што скажуць? Ты ж не проста хворая. Ты ж урач. Нельга табе, нельга...

Прыйшлі санітары, паклалі на насілкі, панеслі.

Барысаў — Гуса-Нова—Каханава... Калона машын з хворымі і раненымі рухалася ноччу. Днём хаваліся, маскіруючыся, у лесе. Мінулі Оршу. У Кардымаве, невялічкім гарадку пад Смаленскам, адчула сябе лепш. Думкі пра вайну занепакоенасць лёсам мужа адганялі хваробу.

У тым жа Кардымаве адвялі дзіцячы дом пад шпіталь. Дзяцей адправілі ранішнім цягніком на Усход.

У Смаленску жыў Мікалай, брат мужа. Яна адразу ж напісала яму пісьмо. І якая ж была радасць, калі праз два дні яна ўбачыла свайго Фёдара жывым і цалюткім. У той самы момант, як Мікалай атрымаў ад яе пісьмо, муж ужо быў у яго. Прыехаў у Кардымава неадкладна. Уляцеў у палату змораны, усхваляваны і, як убачыў яе, кінуўся абдымаць, цалаваць на вачах у разгубленых жанчын.

Употай ад мужа яна паклапацілася, каб яе выпісалі са шпіталя — запэўніла, што сама ўрач і лепш, чым хто-небудзь, ведае, здаровая яна альбо не. Хоць, калі па шчырасці, то зусім здаровай яна яшчэ сябе не адчувала.

Фёдара здзівіла хуткасць, з якой яна ўсё вырашыла. Прасіў пачакаць дні са два, дамовіліся ж, што яна вылежа хваробу. І, бач, зрабіла па-свойму. Аднак ні словам ні падала не папракнуў. Што ні кажы, яна — урач і яе месца, як і яго, на фронце. Натуральна, баяўся за яе, каб ненарокам шалёная куля яе не напаткала, каб асколкам міны або снарада не зачапіла. Але хіба ён менш баяўся б за яе, калі б яна была далёка ад яго. Скажам, ён на Заходнім, а яна на Паўночным фронце. Не, толькі не гэта. Яны будуць разам. Ён будзе берагчы яе, асцерагаць, ён будзе для яе прыкрыццём, цяплом і апорай.

У ваенкамаце сівы маёр, уважліва выслухаўшы іх, згадзіўся.

Невялічкі пакойчык на другім паверсе. Яна, засяроджаная і стомленая, апэрыруе цяжкахворага, дзве маладзенькія ўвішныя сястры, яе асістэнткі, спраўна ёй дапамагаюць. Ад блізкіх узрываў раз-пораз скаланаюцца сцены. Але яна не чуе ні выбухаў, ні стрэлаў, яна працуе. Адзін са снарадаў разарваўся каля самага дома. Сёстры ў жаху, тулячыся адна да адной, у куток — ні жывая, ні мёртвая. А яна?.. Прыкрыўшы сурвэткай адкрытую рану байца, прыкрыла яго сабой. Зноў выбух. Зазвінелі выбітыя шыбы. Над галавой прасвістаў асколак і ўрэзаўся ў сцяну каля самай столі. Пасыпалася тынкоўка. Счакаўшы хвілін колькі, разагнулася:

— Бачылі, які нам Гітлер пачастунак прыслаў? Каб ён яму папярок горла стаў.

Дзяўчаты падняліся. Разгублена і вінавата пераглянуліся.

Пры сустрэчы з мужам яна расказала яму пра гэтую аперацыю, што была яна складанай і што ўсё ж раненага ўдалося выратаваць.

Фёдар многага не ведаў. Як яна, калі не хапала санітараў, выносіла раненых з поля бою, як разоў колькі была на валаску ад смерці.

Кароткае зацішша паміж баямі. Ноч. І доўгія размовы з Фёдарам:

— А ведаеш яшчэ што было? Прысылаюць нам донарскую кроў. Узяла я ампулу. Прама перада мной ляжыць картка цяжкараненага, каму мы збіраемся пераліць гэтую кроў. Чытаю на ампуле прозвішча. Яно такое ж, як у параненага. І мясцовасць, дзе пражывае жанчына, супадае, тая ж прапіска. Сумненняў амаль не засталося — жонка. Пералілі мы раненаму тую кроў. А, як апрытомнеў, вярнулася да яго свядомасць, расказалі яму, як было. Сапраўды — ягоная жонка. Пацвердзіў. Колькі здзіўлення, радасці было для чалавека. Хутка пачаў папраўляцца. Пісьмо дадому сваёй каханай выратавацаў напісаў...

Успаміны... Здавалася, ім не будзе канца. Расказвала яна. Расказваў ён. Зноў жа не пра тое, як хадзіў у атаку, адбіваў фашыстаў, глядзеў у вочы смерці. Таварышаў згадваў, чыёй мужнасцю захапляўся.

Нашы войскі на ўсіх франтах пераходзілі ў рашучае наступленне. Фашысты каціліся назад, на Захад. Ужо была вызвалена родная Беларусь. Паслала бацькам пісьмо. Атрымала ад іх. Бацька пісаў, што вельмі хацеў усё жыццё, каб маці нарадзіла сына. Але цяпер не шкадуе. Дачка яго змагаецца не горш, чым іншыя сыны. Значыць, ёсць чым апраўдацца яму на старасці перад Радзімай.

Грымелі баі за Польшчу. Там яе і напаткала страшнае гора. Памёр Фёдар. Не ад рукі фашыста. Сэрца здало, не вытрымала. Ёй потым расказвалі, як многа ён на сябе браў, як многа паспяваў, як блізка да сэрца прымаў кожную страту сярод нашых байцоў на полі бою. І сэрца не вытрымала. Не стала чалавека, якому яна аддавала ўсю цеплыню душы, якога кахала.

Яна пайшла да камандуючага і папрасіла пяць дзён, каб з'ездзіць на Радзіму. Прывезла свайго Фёдара ў Мінск і пахавала на вайсковых могілках. "Быў ты да гэтага маім, са мной і пасля вайны на ўсё жыццё маім застанешся, будзеш побач са мной", — гаварыла яму, як жывому...

Вайну Ефрасіння Рыгораўна Брэус закончыла ў Берліне. У доўгачаканы дзень Перамогі падаставала свае ўзнагароды — ордэн Чырвонай Зоркі, медаль "За абарону Масквы" і іншыя, прышпіліла да гімнасцёркі. У нагрудную кішэнь, каля сэрца, паклала ўзнагароды мужа, які так чакаў гэтага дня. Гром аркестра, абдымкі, віншаванні, слёзы радасці, майскія громкі салюта.

А другі раз замуж так і не выйшла.

...З Глуска ў Мінск яна вярталася наступным днём. Яе мінская кватэра — у старым даваенным доме. На дзіва і радасць ён уцалеў — невялікі двухпавярховы ў тры пад'езды. Тут яны з Фёдарам пачыналі жыць, тут іх даваеннае шчасце. Тут захоўваюцца асобныя рэчы Фёдара. Ёй падабаецца яе кватэра. Хоць даўно прапаноўвалі лепшую, сучасную. Проста тут ёй добра, утульна, спакойна.

Бяжыць дарога, сцелецца стужкай пад колы аўтобуса. Думкамі яна ў заўтрашнім дні. Ён уяўляецца ёй светлым, прыгожым, праменным і чыстым, як усё яе жыццё.

**Пятро САБІНА**

# Насіў імя святога князя

Трагедыя Залатой Прагі папоўнілася яшчэ адной незваротнай стратай: 19 жніўня на 72-м годзе жыцця не стала даўняга сябра нашай літаратуры Вацлава Жыдліцкага. Жнівеньскія падзеі 1968 года пакінулі першы рубец на яго дружалюбным сэрцы. Але да апошняе змогі наш родны чалавек у Празе працаваў на супольнасць творчага Слова ўкраінцаў, беларусаў, чэхаў.

Жыдліцкі напісаў імя Святога Вацлава — апекуна Чэхіі... І амаль 40 гадоў быў натхнёным рэпрэзентантам нашага прыгожага пісьменства не толькі ў сябе на радзіме, але і ва ўсім славянскім свеце. Ён, нібы той патрон у Старажытным Рыме, узяў пад сваё заступніцтва тысячагадовую гісторыю беларускай літаратуры, так мала знаную на зямлі, дзе знайшоў свой апошні прытулак яе першадрукар, Скарына. Бо не толькі яго суайчыннікі успрымалі пераклад назвы «Belorusko» літаральна — як «Белая Расія». Вацлаў Жыдліцкі «на свет цэлы» вывеў сучасных яго літаратараў — Івана Мележа, Васіля Быкава, Янку Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Івана Пташнікава, Кузьму Чорнага, Івана Шамякіна, Аляксея Карпюка, Анатоля Кудраўца... І ў выніку — непадробная радасць перакладчыка: «...беларускай літаратурай цікавяцца ў нас цяпер больш, чым, скажам, Хемінгуэем» (інтэрв'ю А. Мальдзісу ў 1981 г.). І там жа: «Асабліва імпануе мне сваім эпічным размахам ваша проза».

Але ён, у філалагічных навуках доктар, загадаў цісн уці чэшскімі словамі славянскае мовы і аднатомнікі Янкі Купалы, Максіма Танка, укладзеную ім анталогію сучаснай беларускай паэзіі.

Аднаго разу з В. Жыдліцкім паспрабавалі падлічыць яго перакладчыцкі набытак. У спісе былі ці не 15 аўтараў з больш як 30 творамі. А на той час ён ужо «прыглядаўся» да прозы В. Адамчыка, А. Жука... Бо, як зазначаў чэшскі беларус (а размаўляў ён без акцэнту), «...сучасная беларуская літаратура дамаглася ўзроўню, аб якім марыў Багдановіч, калі гаварыў, што яна нясе дар усяму чалавецтву». І дадаваў: «...будуць усцешаны тыя, хто чакае вызначальных вынікаў. Былі б толькі спрыяльныя ўмовы».

Вацлава Жыдліцкага лічылі і будуць лічыць сваім беларусы і украінцы. Ён нарадзіўся на Валыні 16 красавіка 1931 года. Пасля вайны яго бацька Яраслаў з вёскі Купічаў Турыйскага раёна рээмігрыраваў з сям'ёй на радзіму продкаў. У Карлавым універсітэце В. Жыдліцкі пачаў вывучаць гісторыю ўкраінскай і беларускай літаратур, даследаваць сувязі, чэшскія пераклады. Як гартаваўся будучы дасканалы перакладчык, сведчаць такія працы дацэнта, а потым і прафесара універсітэта: "Даследаванні па гісторыі чэшска-беларускай супольнасці", "Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры"... Да прыкладу, у "Слоўніку пісьменнікаў народаў СССР" змешчаны 143 яго артыкулы пра нашых літаратараў! Цяжка пераацаніць педагагічную дзейнасць Жыдліцкага на філасофскім факультэце, дзе пры кафедры русістыкі з 1958 года існаваў аддзел украіністыкі і беларусістыкі і дзе ён выгадаваў многа пераемнікаў сваёй справы.

Падчас сёлетняга жнівеньскага патопу Прагі пакінуў гэты свет і асірацiў нас Вацлаў Жыдліцкі. Чым жа яшчэ пры яго жыцці мы аддзячылі свайго шчырага сябра (за слова "сябар" зачапіўся калісьці няўрымслівы пражак і праз яго дайшоў да Беларусі)? Ён быў узнагароджаны Ганаровай граматай Дзяржкамітэта БССР і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. І толькі ў 1996 годзе было нададзена яму званне Ганаровага прафесара БДУ. Даводзілася праводзіць яго ў аэрапорт маўклівым, счарнелым ад нашай няўвагі і няўдзячнасці... І калі ж нарэшце выдадзім яго прадмовы і пасляслоўі да перакладзеных ім дзесяткаў кніг, дзе створаны цэласны вобраз нашай літаратуры як еўрапейскай культурнай з'явы? Ці спазнаем меру яго ацэнак нашых творцаў з таго самага "Слоўніка пісьменнікаў"? У кнігу-помнік прасіцца аценачныя публікацыі пра яго самаадданы подзвіг, з якімі выступалі ў друку А. Мальдзіс, Ю. Туронак, А. Мажэйка, П. Марціновіч, А. Гардзіцкі... "Затое ж радасць якая — пісьмо ад Вацлава Жыдліцкага!.." — усклікаў летась у лімаўскай "Жменьцы" Янка Брыль. Смуткуючы аб страчаным сябры, Іван Антонавіч турбуецца, каб не прапаў у Празе "беларускі" архіў вучонага і перакладчыка, руплiўца і дарадца, чалавека высокай душы. Будзем спадзявацца, што перавядзём сябра Вацлава цераз чэшска-беларускае сумежжа і ён застанецца з намі назаўсёды.

Сёння пахаванне ў Празе Вацлава Жыдліцкага. Пакуль не пагасла жалобная свечка, дамо зарок на шану, бо тых хто падтрымлівае нас і зычыць, як Янку Брылю: "Няхай Бог Цябе беражэ!", так нечакана пераходзяць імкліву раку часу.

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**намеснік старшыні сябрыны "Беларусь—Чэхія"**



*На здымку: Яўгенія Янішчыц, Уладзімір Караткевіч, Валянціна Коўтун, Вацлаў Жыдліцкі з Ілонай Барадулінай, Міхась Стральцоў, Мікола Прашковіч і Сяргей Панізнік. 10 мая 1968 г. у двары дома Ул. Караткевіча*

# Сын зямлі беларускай

20 жніўня 2002 г. на 73-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі мастак, Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Іван Рэй. Усё жыццё ён услаўляў родную Беларусь у сваіх краявідах. Мала хто ведаў, што мастак пісаў і вершы, у душы да апошняга дня заставаўся тонкім лірыкам.

***Мой лес і мой луг і бацькоўская хата***
***Вы радасць і шчасце ў дарогу далі...***
***Таму і на свеце я самы багаты***
***І хочацца сеяць зярняткі ў раллі...***

50 гадоў — так вымяраецца творчы шлях Івана Рэя. Першыя крокі ў мастацтве ён зрабіў як манументаліст, аформіў роспісам Беларускі інстытут фізкультуры. Да 1960-х гадоў адносяцца вітраж "Беларусь" для савецкага павільёна міжнароднага кірмашу ў Лейпцыгу, вітраж "Айчынная вайна" для музея Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску. Аднчасова Іван Рэй пісаў жанравыя карціны, партрэты, пейзажы, якія захоўваюцца сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі і ўваходзяць у залаты фонд беларускага нацыянальнага мастацтва: "Даяркі", "Паляводы", "Пастух", "Калгаснік", "Маці", "Партызанскі сувязны", "Дзякуй, мама", "Сям'я", "Светлячок", "З вогненнай вёскі", "Быль ваенных гадоў. 1941". За карціну "Зямля мая беларуская" мастак атрымаў прэмію "За лепшы твор беларускага мастацтва 1985 года". Іван Рэй шмат выстаўляўся. Вядомасць прынёс яму шэраг партрэтаў дзеячаў беларускай культуры — палотны "Янка Купала і Якуб Колас", "Элаіза Пашкевіч", "Максім Багдановіч", "Дунін-Марцінкевіч з дачкой Камілай і Цэзарынай" і інш. У 2001 годзе яго ўзнагародзілі медалём Ф. Скарыны.



Дзяцінства Івана Рэя прайшло сярод квітнеючых садоў, гаманлівых лугоў і лясоў у вёсцы Падбулькава, што на Брэстчыне. Дзіцячыя ўражанні падштурхнулі да пейзажаў, так нарадзіліся карціны "Вечарэе", "Наваколле Мінска", "Дарога ў лесе", "Восеньская алея", "Рака Свіслач", "Залатая восень", "Элегія". Сталі класікай у беларускім выяўленчым мастацтве яго карціны "Малінавы звон", "Цвіценне", "Першы прамень", "Элегія". Іван Пятровіч паказаў сябе ў гэтых жанрах выдатным каларыстам, майстрам святла, жывапісцам радасці і спеваком суму, роўным якому ў сучасным пейзажным жывапісе знойдзецца няшмат мастакоў.

Мастак выключнага таленту і майстэрства, Іван Рэй, быў прадаўжальнікам лепшых традыцый беларускага жывапісу канца XX — пач. XX стст. Ён пакінуў пасля сябе шэраг жывапісных вобразаў своеасаблівай і мілагучнай прыроды Беларусі, якая ў сваю чаргу, давала яму моц і сілу ў вельмі няпростым жыцці мастака.

**Галія ФАТЫХАВА**

# Сяргей Юркевіч

На 49 годзе жыцця, пасля працяглай хваробы памёр Сяргей Фёдаравіч Юркевіч, С.Юркевіч нарадзіўся ў 1954 годзе ў Маладзечна. У 1975—1980 гадах вучыўся ў Ленінградскім дзяржаўным інстытуце тэатра, музыкі і кінематаграфіі, дзе атрымаў спецыяльнасць рэжысёра тэатра лялек, быў вучнем М.Каралёва, С.Абразцова. У 1980 годзе Сяргей Юркевіч стаў першым дырэктарам і рэжысёрам Гродзенскага абласнога тэатра лялек. Тэатр найбольш поўна заявіў пра сябе пастаноўкай паэтычнай «Балады пра белую вішню» С.Клімковіч, прысвечанай мінуламу беларускага народа. За гэты спектакль малады рэжысёр атрымаў званне лаўрэата конкурсу творчай моладзі.

У 1990 годзе Сяргей Юркевіч заснаваў Мінскі абласны тэатр лялек «Батлейка». Тут былі пастаўлены казкі беларускіх аўтараў: А.Туравай, С.Кавалёва, П.Васючэнкі.

У 1995 годзе на базе Беларускага таварыства інвалідаў С.Юркевіч заснаваў тэатр лялек «Кураж».

За сваё творчае жыццё рэжысёрам здзейснена каля 40 пастановак у лялечных тэатрах Беларусі (Гродна, Бярэсце, Маладзечна, Мінск).

З 1996 года С.Юркевіч працаваў у Беларускім дзяржаўным інстытуце праблем культуры старшым навуковым супрацоўнікам. Меў вялікі вопыт практычнай і аналітычнай працы ў галіне прафесійнага лялечнага тэатра. С.Юркевіч добра ведаў тэндэнцыі развіцця тэатраў лялек рэспублікі і замежных краін.

За перыяд працы С.Юркевіч напісаў кнігу-дапаможнік для аматарскіх тэатраў лялек «Волшебный мир театра кукол», абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме "Мастацтва тэатра лялек Беларусі 90-х гадоў XX стагоддзя: пытанні рэжысуры, асаблівасці сцэнаграфіі, стан рэпертуару, тэндэнцыі развіцця" (2001 г.)

Два гады запар (1997—1998) прызначаўся Міністэрствам культуры сакратаром Рэспубліканскага журы конкурсу-агляду на лепшыя спектаклі тэатраў драмы і лялек краіны.

У 1997 годзе С.Юркевіч быў прыняты ў шэрагі Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў і пачаў выступаць з рэцэнзіямі і тэатразнаўчымі артыкуламі ў штотыднёвіках "Голас Радзімы", "ЛіМ", "Культура", "Сям'я", газеце "Чырвоная змена", часопісе "Мастацтва", альманахах "Веснік БелІПК", "Весці Беларускай акадэміі мастацтваў", на беларускім радыё.

Сяргей Фёдаравіч Юркевіч прымаў актыўны ўдзел у грамадска-культурным жыцці Мінска.

Пайшоў з жыцця сумленны і працавіты чалавек, выдатны навуковец, які 30 год аддаў беларускаму тэатру...

**Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры**
**Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў**
**Беларускі саюз тэатральных дзеячаў**
**Гродзенскі абласны тэатр лялек**
**Брэсцкі абласны тэатр лялек**
**Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка".**

# Усё жыццё з песняй Купалы

Аднаго дня мы з Аляксеем Васільевічам Пысіным прагульваліся па вуліцах Магілёва. Ішлі нетаропка, вялі спакойную гаворку. Калі ж размова пайшла пра паэтаў добрых і розных, то я не ўтрымаўся і сказаў Аляксею Васільевічу:

— А няхай бы ўсе паэты пісалі вершы гэтак жа добра, як ты, а яшчэ лепей, як Янка Купала!

— Сумна было б, — пачуў я ў адказ.

І ён расказаў мне, што яшчэ да вайны нехта з маладых паэтаў прапанаваў пісаць вершы толькі так, як піша іх Янка Купала — салавей беларускай паэзіі. Ды Янка Купала не ўхваліў такую прапанову. Наадварот. Ён сказаў, што і сам любіць спеў салаўя. Але калі б і жаваранкі, і зязюлі, і шпакі, і перапёлкі, і кнігаўкі, і буслы, і сарокі ды іншыя птушкі сталі спяваць усе аднолькава хораша, па-салаўінаму, то нецікавая была б паэзія, сумна было б у жыцці. Таму, як і ў спеве птушак, у паэзіі павінны быць розныя галасы, розны спеў. І калі таленавітым і разнастайным будзе спеў, калі кожны будзе пісаць вершы па-свойму і шчыра, то паэзія наша стане вельмі цікавай і зойме дастойнае месца між літаратурамі іншых народаў.

Паэт Аляксей Пысін яшчэ на самым пачатку свайго творчага шляху імкнуўся раўняць радкі сваіх твораў на паэзію Янкі Купалы. Але ніколі не пераймаў класіка, не капіраваў яго. Заўсёды гаварыў паэтычнае слова сваім голасам, пысінскім.

Што ж тычыцца сімпатыі як чытача да паэта, то Аляксей Васільевіч заўсёды лічыў творчасць Янкі Купалы вяршыняй беларускай паэзіі і яна была маяком, на святло якога ён пастаянна, з дня ў дзень, з году ў год трымаў курс у сваёй паэтычнай працы. І не толькі не саромеўся гэтага, а выстаўляў напаказ, каб усе бачылі і ведалі. І калі яго ўзнагародзілі медалём Янкі Купалы, то палічыў гэта найвышэйшай з усіх узнагарод...

У канцы пяцідзесятых і ў шасцідзесятыя гады Янка Купала быў кумірам Аляксея Пысіна. У рэдакцыйным кабінеце "Магілёўскай праўды" (яшчэ ў Доме Саветаў) над рабочым сталом Аляксея Васільевіча вісеў вялікага памеру фотапартрэт Купалы (падарыў яго фотакор газеты Мікалай Сідараў, з якім Пысін сябраваў). Той партрэт Купалы і зараз захоўваецца ў Еўдакіі Сямёнаўны Пысінай. Пры нагодзе Аляксей Васільевіч ахвотна ладзіў літаратурныя вечарыны, гаварыў слова пра Купалу, рыхтаваў газетную паласу, прысвечаную юбіляру.

У 1958 годзе ў магілёўскім літаратурным зборніку "Прыдняпроўе" А. Пысін змясціў свой верш з назвай "Песня Купалы". Гэты твор больш ніколі не друкаваўся. Сённяшні чытач яго не ведае. Таму, хаця тэкст яго даволі аб'ёмны, усё ж варта даць поўнасцю:

## Песня Купалы

***I***

*Тры чвэрці стагоддзя мінула*
*Як ты нарадзіўся, паэт.*
*Тры плыні бурлівыя з гулам*
*Прайшлі, пракаціліся ў свет.*
*Плынь першая — слёзы і гора,*
*Глухая імгла над усім.*
*Другая — Кастрычніка зоры —*
*Адбіла ў разліве сваім.*
*А трэцяя плынь — калыханне*
*Бязмежных калгасных палёў,*
*Заводаў і домнаў дыханне,*
*І гул пераможных баёў.*
*Прайшлі, пракаціліся плыні*
*Праз чулае сэрца ў свет.*
*Аб горы і шчасці краіны*
*Пакінуў нам песні паэт.*

***II***

*Ты тая калыска, што нас калыхала,*
*Ты тая крыніца, што сіл прыбаўляла,*
*Шчырая песня Купалы.*
*Да светлых вышыняў ты нас заклікала,*
*Змагацца за шчасце ты нас узнімала —*
*Мужная песня Купалы.*
*Ты з намі ў атакі, у паходы хадзіла,*
*Ты ворагаў лютых у бітвах касіла —*
*Грозная песня Купалы.*
*Ты з намі сягоння на новай будоўлі,*
*Ты з намі на варце здабытае долі —*
*Мірная песня Купалы.*

***III***

*Над плёсам з касцамі ў лугах заначую,*
*Ці зоркі застануць мяне на жніве —*
*Усюды я песню Купалы пачую.*
*Бо песня Купалы ўсюды жыве.*
*Кукуе зязюля, як некалі ў лесе,*
*І з дымкаю песня ўсплывае на яў:*

*Знайшла сваю долю і шчасце Алеся,*
*А хлопчык маленькі ўжо лётчыкам стаў.*
*Нязломныя сілы дала нам Радзіма,*
*Узнімайся высока, усё вышай ляці!*
*І мары паэта праз леты і зімы*
*У нас явай цвітуць, каласяцца ў жыцці.*

У 1962 годзе Аляксей Пысін напісаў верш "Яго партрэт знаёмы ўсім" ("Зара Камунізму", Бялынічы. — 1962. — 7 ліпеня. — С. 3):

*Пайду к стажарам на купалле,*
*Калі зара ўпадзе да ног.*
*Жывых бяссмертнікаў Купале*
*Там назбіраю у вянок.*
*Ён не любіў каляных лаўраў,*
*Без свежасці світальных рос.*
*І паважаў не звон літаўраў,*
*А звон сярпоў і гоман кос.*
*Якія ён знаходзіў словы,*
*З якім майстэрствам іх граніў...*
*У іх быў рокат перуновы,*
*Набатны кліч і шолах ніў.*
*Між самых крэўных, самых блізкіх*
*Яго партрэт знаёмы ўсім.*
*І дзеці з самае калыскі*
*Ўжо лічаць песняра сваім.*
*Такі сардэчны, задуменны,*
*Даступны і негаваркі,*
*Увайшоў у дом, у круг сямейны,*

*Як уваходзяць сваякі.*
*Мінула не адно ўжо лета,*
*Калі вянкі плялі з журбой...*
*Бярэш у рукі том паэта,*
*І — размаўляе ён з табой.*

Верш лірычны, цёплы, з любоўю да Песняра. Але Аляксей Васільевіч, здаецца мне, больш нідзе не друкаваў яго. А частку радкоў скарыстаў у вершы-партрэце, які напісаў у 1964 годзе, а надрукаваны ён быў толькі ў 1968 годзе ў зборніку "Пойма", а затым ужо ў "Выбраных творах" у двух тамах.

## Да партрэта Янкі Купалы

*Між самых крэўных, самых блізкіх*
*Яго партрэт, знаёмы ўсім.*
*І дзеці з самае калыскі*
*Паэта прызнаюць сваім.*
*Такім і быў ён... задуменны,*
*Даступны і негаваркі,*
*Увайшоў у дом, у круг сямейны,*
*Як уваходзяць сваякі.*

Як бачым, тут засталося толькі восем радкоў, але адшліфаваных сэрцам паэта, радкоў ужо сярэбрана-залацістых. Гэта ўжо верш-шэдэўр, у якім творца сказаў галоўнае пра самага любімага Паэта. Можа, таму больш вершаў пра Купалу ў Пысіна не было. Але ўсё яго жыццё прайшло з песняй Купалы, многія яго радкі вершаў на ўзроўні паэзіі Купалы, усе творы — песня Купалу.

Аляксей Васільевіч ацэньваў свае творы меркай Купалы, свае ўчынкі і памкненні — меркай Купалы, сваю дапамогу маладым паэтам — меркай Купалы. Паэт Пысін усё жыццё вучыўся ў Купалы і вучыў гэтаму пачаткоўцаў. І сам вучыўся ў маладых паэтаў. Часта паўтараў:

— Вучыцеся ў маладых паэтаў!

**Віктар АРЦЁМ'ЕЎ**

ВЫСТАВЫ

# З радзімы Тараса Шаўчэнкі

Чацвёрты год у Мінску ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва экспануюць свае творы мастакі з Украіны. Мінчане пазнаёміліся ўжо з творцамі Чарнігаўшчыны, Валыншчыны, Жытоміршчыны. Многа наведвальнікаў сабрала і выстава Чаркаскай вобласці "Сваю Украіну любіць..." На адкрыцці яе выступілі намеснік міністра культуры Беларусі В.Гедройц, дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва народны мастак Беларусі В.Шаранговіч, старшыня упраўлення культуры Чаркаскай абласной адміністрацыі І.Казленка, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў РБ А.Дронь, які, дарэчы, днямі пакідае Беларусь. Тэрмін яго працы падыходзіць да заканчэння.

Ідэя выставаў украінскіх мастакоў, некалькі год таму прапанаваная спадаром Дронем, аказалася насамрэч вельмі цікавай. Мастацтва нашых суседзяў выпеставалася, як і беларускае, з традыцый рэалістычнай школы, з акадэмічных прынцыпаў малявання і класічных падыходаў да жывапісу. За гады «самасційнага» развіцця ў мастацтва Украіны прыйшлі новыя накірункі і тэмы. Але сучасныя заходнія павевы больш адчувальныя на сталічным мастацтве. Творцы ж, якія стала атайбаваліся ў рэгіёнах, захоўваюць прыхільнасць да традыцыйных краявідаў і партрэтаў, да жанравых карцінак з вясковага і гарадскога жыцця. Але ж і прадаўшчыца са шматком сала альбо з абаранкамі выпісаны мастакамі з любоўю і прыязнасцю да людзей свайго краю. Натуральна, што частка карцін прысвечана партрэтным выявам Тараса Шаўчэнкі, яго



родным мясцінам, вобразам яго паэзіі. Шэсць мастакоў Чаркашчыны, творы якіх склалі выставу «Сваю Украіну любіць...», захоўваюць у сваёй творчасці, у тэматычнай абранасці, колеравай гаме традыцыі народнага мастацтва Заходняй Украіны.

Усе прадстаўленыя на выставе творцы — мастакі розных школаў, рознага ўзросту і творчых накірункаў. Старэйшае пакаленне прадстаўляюць народны мастак Украіны, лаўрэат Нацыянальнай прэміі імя Т.Шаўчэнкі Даніла Нарбут (1916-1998), заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны Віктар Кліменка. Пазнаёмяцца гледачы з яркімі, святочнымі краявідамі Чаркаскай зямлі, напісаныя вядомым украінскім пейзажыстам Іванам Бондарам. Сучасны станкавы жывапіс прадстаўляе заслужаны мастак Украіны Тамара Гордава, а дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва — Іван Фізер. Імя Аляксандры Целіжэнкі, заслужанага мастака Украіны, неадлучна ад гісторыі украінскай



*І. Бондар, " Берагіня"*

сучаснай вышыўкі, у тэхніцы якой яна працуе паслядоўна шмат гадоў. Усе мастакі скончылі розныя мастацкія навучальныя ўстановы, якіх на Украіне, у адрозненні ад Беларусі, багата. Шэсцьдзесят прадстаўленых імі работ даюць досыць поўнае ўяўленне аб сённяшнім дні мастацтва украінскага рэгіёна і не пакідаюць наведвальнікаў абыякавымі.

**Н.ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. ДРОБАВА*







ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**В. а. галоўнага рэдактара**
**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 1568
Нумар падпісаны ў друк 22.08.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1938

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12